

Праабражэнне ў Супраслі → 3


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714




«Зорка» → 8


http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 36 (3356) Год LXV | Беласток, 6 верасня 2020 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Бела-чырвона-белае сэрца

Тэкст і фота **Віктара САЗОНАВА**

**Амаль два тыдні гэты горад называлі не інакш, як Вольны Горад Гародня. Амаль два тыдні над ім і ў ім свабодна лунáлі бела-чырвона-белыя сцягі, хадзілі ўсцешаныя людзі і віталіся адзін з другім словамі „Жыве Беларусь!!!”. Амаль два тыдні адноснай свабоды, за якую было заплачана вялікім коштам...**

Пасля ледзьве не тыднёвага перыяду жудаснай бойні, арыштаў і праследаў, учыненых сілавікамі пасля выбараў, прайшло яшчэ два тыдні адноснага зацішша з боку ўлад. Адноснага. Нельга сказаць, што ў гэты перыяд праследы спыніліся. Не. Улада як і раней рабіла ўсё што магла, каб збіць партэсны настрой грамадства. Проста зверстваў стала менш. Жорсткае абыходжанне з затрыманымі стала небяспечным для самой улады, бо выклікала ў грамадства моцнае абурэнне. Але нават і такому касметычнаму паслабленню рэпрэсіўных мер надыходзіць канец. І вось зноў ціск на грамадскасць пачаў узмацняцца. Два тыдні хапіла ўладам, каб знайсці хаўрусніка і падтрымку ў справе націску на свой народ. Зноў у Гародні з новай сілай і інтэнсіўнасцю заводзяцца справы, выклікаюцца і затрымліваюцца людзі, праводзяцца акцыі масавага запалохвання і праследу. І не толькі ў Гародні. Па ўсёй Беларусі так.

Адразу пасля выбараў ва ўлад быў канкрэтны план, правераны імі ў мінулыя часы. Калі людзі выйдуць на вуліцу аспрэчваць вынікі выбараў, улады вырашылі даць ім так, каб на другі дзень не толькі выйсці не захацелі, але і не змаглі. Але так не атрымалася. Пасля жорсткіх разгонаў і жудасных затрыманняў удзельнікаў мірных акцый, пасля тых чорных падзей, калі з'явіліся першыя зніклыя без вестак, першыя загінуўшыя, першыя пакалечаныя і тысячы збітых і арыштаваных, грамадскасць Беларусі згуртавалася і выйшла зноў. А затым зноў і зноў. Улады ўзялі паўзу, каб зрабіць перадыслакацыю сіл...

І вось ужо ў Гародні да людзей на плошчы выйшлі прадстаўнікі выканкама, і вось ужо паабяцалі не перашкаджаць мірным акцыям, і вось ужо сталі адпускаць затрыманых... Відавочна было ад пачатку, што ўладзе патрэбна паўза. Яны не чакалі такой моцы і трываласці вольнага беларускага духу. Яны не здагадваліся, што ёсць той вольны дух. Што ж гэта за ўлада, якая ажно так не ведае свайго народа?! Чужая, хіба што. Гісторыю вучыць трэба. Там усё ёсць.






А яшчэ ж восенню мінулага года ў старадаўняй Вільні, Зямля і Гісторыя раскрылі магілы беларускіх паўстанцаў, нібыта хацелі паказаць усяму свету і гэтай уладзе, што такое прага беларусаў да свабоды, што яна існавала заўсёды, што за яе аддавалі жыцці, і што яе нельга знішчыць. Тады, на перазахаванні парэшткаў Кастуся Каліноўскага і паўстанцаў 1863-1864 гадоў неба над Вільняй было бела-чырвона-белым ад беларускіх нацыянальных сімвалаў. Дарэмна тады на гэта не звярнулі ўвагі ўлады. Можа гэта стрымала б іх ад многіх неабдуманых дзеянняў. Вольны дух, які падарыла ад прашчураў сённяшнім пакаленням раскрытая Зямля, беларусы развезлі па ўсёй сваёй Радзіме.

Я памятаю той дзень вельмі добра, бо менавіта тады марыў убачыць неба Гародні ў такіх бела-чырвона-белых колерах, у якіх было неба Вільні. Тады я ўспамінаў нашага славутага пісьменніка Уладзіміра Караткевіча, які напісаў, што Хрыстос прызямліўся ў Гародні. І тады, як падарунак Нябёсаў, у маёй свядомасці сама стала складвацца песня „Хрыстос прызямліцца ў Гародні”, дзе сцвярджалася, што Хрыстос яшчэ прызямліцца ў Гародні, ды скажа: „Жыве Беларусь!!!”.

Бела-чырвона-белае неба ў Гародні мы ўсе ўбачылі. Мала таго, такое неба мы ўбачылі над усёй нашай Радзімай, а нават па ўсім астатнім свеце. Хай сабе не так, як у нас, але ўсё ж Нябёсы крыху афарбаваліся ў нацыянальныя беларускія колеры паўсюль.

Нельга на такія сімвалы і знакі, якія мы бачылі восенню ў Вільні, не звяртаць увагі. Але ўлады не звярнулі, як не звярталі ўвагі на жаданні беларусаў і іх прагу да свабоды ды справядлівасці. Не хацелі звяртаць. Палічылі што ў іх ёсць і ўсемагутнасць, і ўсёдазволенасць. І ў дадатак, з неабмежаванага пачуцця сваёй беспакаранасці і самаўпэўненасці ўлады ўчынілі ў Мінску чарговае цывілізацыйнае і духоўнае злачынства, празванае беларусамі крыжаломам. У Курапатах, на месцы масавых пахаванняў нявінна расстраляных беларусаў, зноў узрушылі Беларускую Зямлю. Цяпер ужо выцінаючы адтуль крыжы...

Няўжо яны думалі, што гэта зыдзе ім з рук?! Няўжо яны думалі, што ёсць на свеце ўлада, якая мацнейшая за Крыж?! Ох, нельга так з крыжамі!

І яны пабачылі іншы крыж, які ўжо нельга было ні зламаць, ні выдзерці! Пабачылі тады, калі беларусы сабраліся ля стэлы ў Мінску, каб выказаць пратэст, і сталі паабапал дарогі, каб не перашкаджаць дарожнаму руху. І адразу дарожнае скрыжаванне ў цэнтры беларускай сталіцы ператварылася ў неверагодна вялікі крыж бачны з усяго свету, атачаны вакол бела-чырвона-белым морам нацыянальнай беларускай сімволікі, якую ў сваіх руках трымалі сотні тысяч беларусаў. А па самым дарожным крыжы ехалі і гудзелі аўтамабілі з такой жа сімволікай. Яны на палотнішчах з выявамі неўміручай Пагоні везлі тысячы крыжоў намаляваных на шчытах той Пагоні.

Цікава, ці пабачыўшы гэтыя крыжы ўлады ўспомнілі пра паламаныя курапацкія?! Але гэтыя крыжы было ўжо не зла-

чытайце ☞ 2

1 ☞ працяг

маць. Іх трымаў у руках беларускі народ. Аднаго толькі не хапала — арыгінальнага крыжа Еўфрасінні Полацкай, які вывезлі з нашай Зямлі. Але на ўсё свой час і Божая воля.

На збіццё сваіх суайчыннікаў увесь беларускі народ адказаў масавымі акцыямі мірнага пратэсту. Калі сілавікі працягвалі злоўжываць сілай да мужчын, выйшлі жанчыны. Неверагодна, але нейкая калектыўная нацыянальная інтуіцыя падказала народу, што трэба ісці гэтым шляхам. А біць жанчын небяспечна, бо невядома як на гэта адрэагуюць пасля іх мужчыны. Наколькі далёка вылiецца іх абурэнне?!

А пасля зноў выходзяць мужчыны. А пасля разам, нават сем'ямі, яшчэ раз падкрэсліваючы мірны, але ўпарты і незваротны характар пратэсту.

І вось ужо больш трох тыдняў працягваецца супрацьстаянне. З аднаго боку мірныя акцыі, узброеныя толькі нацыянальнай сімволікай і плакатамі, цвёрдасцю духу і прагай да справядлівасці і свабоды. З другога боку ўлада і сілавікі, з бязмежнымі магчымасцямі сілавога ціску і хаўруснікамі.

І мірныя ўжо на першым этапе перамаглі, бо ні ў каго не прасілі дапамогі. А вось улады звярнуліся ажно да кіраўніка іншай краіны, і акурат да таго, хто прапаноўваў далучаць Беларусь да сваёй краіны часткамі або цалкам.

І вось цяпер трывога толькі нарастае. Начальнік краіны заявіў, што перакідвае войскі на захад. Цяпер усходняя мяжа аголеная. Можна ісці парадным маршам. Ды і сам прыехаў на Гарадзеншчыну, дзе памяняў яе кіраўніка. А яшчэ заявіў, што дакладна дамовіўся з расійскім калегам пра дапамогу яму. Ды і расійскі калега выказаўся, што „па просьбе беларускіх улад ён стварыў рэзерв сілавікоў для аказання падтрымкі парадку і абароны жыцця і маёмасці грамадзян". Беларускіх грамадзян ён мае на ўвазе. Сваіх, напэўна, ужо абараніў.

Ніхто гэтай заяве асабліва не здзівіўся. Яе чакалі. Было, праўда, меркаванне, што кіраўнік усходняй дзяржавы і так кінецца гэта рабіць без папярэджання. Але ён, гэтым разам, папярэдзіў. Напэўна ведаў, што ніхто ў свеце не адважыцца яму пярэчыць.

І вялікага пратэсту з усяго свету мы, насамрэч, пакуль што не пачулі. Беларусаў прадавалі стагоддзямі. Мы да гэтага звыклісія. Але гэтая здрада зойме сваё месца ў гісторыі як асабліва цынічная. Некалі, як з'явіцца больш палітыкаў з пачуццём сораму, ім будзе сорамна.

Але і ў расійскага кіраўніка не ўсё ідзе так гладка як з яго абяцанкамі. У самой Расіі людзі пачынаюць падтрымліваць менавіта грамадскасць Беларусі. Падымаюць на футбольных палях бела-чырвона-белы сцяг і крычаць „Жыве Беларусь!!!", выказваюцца ў падтрымку беларусаў. Хто яго ведае, як сябе тут павядзе той славуты сілавы рэзерв. Тут трэба добра паламаць галаву абодвум кіраўнікам, ці задзейнічваць яго.

Ну а беларусы працягваюць паказваць цуды салідарнасці і ўзаемападтрымкі. Цуды самаахвярнасці і стойкасці. Штодня праходзяць акцыі ў розных фарматах і месцах з адной толькі мэтай, паказаць уладзе Волю Народа. Ды і патрабуюць то не так і шмат — усяго толькі справядлівых выбараў.

Людзі падаставалі свае нацыянальныя сімвалы, якія берaглі і хавалі дзесяцігоддзямі. Яны паказалі, якімі яны ёсць насамрэч. Вось яны, беларусы! Яны доўга могуць чакаць, але калі ўжо ўцямілі што ў галаву, то з гэтым трэба лічыцца. Яны прадэманстравалі, што ў імя спакою могуць цярпець доўга. Але пераходзіць мяжу злоўжывання іх цярпеннем нельга.

І вось Гародня зноў у бела-чырвона-белых сімвалах, якія нясуць тысячы людзей. Аўтамабілісты, у якіх белыя і чырвоныя машыны, выстраілі з дзясяткаў сваіх аўтамабіляў бела-чырвона-белую канструкцыю, і яна па кальцавой дарозе аб'ехала ўвесь горад некалькі разоў. На дамах вывешваюцца нацыянальныя сімвалы. Змаганне за назву Вольны Горад Гародня працягваецца!

І змаганне за Вольны Горад Мінск таксама працягваецца! І за аналагічныя назвы іншых гарадоў! І змаганне за назву Вольная Краіна Беларусь не спыняецца!

Цяжка сказаць як складуцца далейшыя падзеі. Беларускі сцэнарый аказаўся не толькі зусім нечаканы, але і непрадказальны. Падавіць вялікай сілай пратэсты на нейкі час можна. Але нейкі час таксама некалі заканчваецца.

З упэўненасцю можна заявіць толькі адно, што будучыня Беларусі, гэта свабодная, незалежная, дэмакратычная краіна. Калі гэта стане, зараз гадаць не варта. Галоўнае, што стане. Абавязкова так будзе!

Цяжкі і складаны гістарычны шлях гэтага народу, але яго перспектывы яскрава акрэсліваюцца ў падзеях апошніх часоў. Будучыня гэтай краіны беларуская, бо ў яе бела-чырвона-белае сэрца.

Тэкст і фота **Віктара САЗОНАВА**

---

Віктар Сазонаў

*Вільня – Гародня*
*лістапад, снежань 2019*

## Хрыстос прызямліцца ў Гародні!!!

*А час той прабіў і раскрыліcь магілы*
*Герояў мінулых гадоў,*
*Народ ачуняў, набіраецца сілы,*
*Народам становіцца зноў,*
*У Вечнае Неба глядзіць нібы грэшнік,*
*А там па крывавай расе,*
*У латах са срэбра праносіцца вершнік,*
*І крыж Еўфрасінні нясе…*

*І зноў запалаюць паходні,*
*І зноўкі на нашу зямлю,*
*Хрыстос прызямліцца ў Гародні,*
*І скажа: "Жыве Беларусь!!!"*

*Сустрэнуць яго дзяцюкі-касінеры,*
*Паўстанцы, лясныя браты,*
*Дзяўчаты ў строях і хлопцы са зброяй,*
*Становяцца зноў у шыхты,*
*За Праўду, за Годнасць, нашую Долю,*
*З Пагоняй імклівай у шлях,*
*За нашу Краіну, за вольную Волю,*
*Са Сцягам Хрыста ў руках…*

*І зноў запалаюць паходні,*
*І зноўкі на нашу зямлю,*
*Хрыстос прызямліцца ў Гародні,*
*І скажа: "Жыве Беларусь!!!"*

*Той дзень надышоў і збылісь прадказанні,*
*Прарокаў далёкіх часоў,*
*Прачнуўся народ і ўбачыў світанне,*
*Народам становіцца зноў,*
*Узіраюцца ў Неба апошні і першы,*
*Патрапіць імкнуцца усе,*
*На шлях дзе праносіцца сярэбраны вершнік,*
*Што крыж Еўфрасінні нясе…*

*І зноў запалаюць паходні,*
*І зноўкі на нашу зямлю,*
*Хрыстос прызямліцца ў Гародні,*
*І скажа: "Жыве Беларусь!!!"*

*І зноў прызямліцца ў Гародні,*
*Яшчэ прызямліцца ў Гародні,*
*Хрыстос прызямліцца ў Гародні,*
*І скажа: "Жыве Беларусь!!!"*

---

# Гангрэна



Калі ў мінулую нядзелю над прэзідэнцкім палацам Мінска лунаў ваенны верталёт, многія ўдзельнікі акцыі ўздыхнулі з палёгкай. «Яны прыляцелі за Лукашэнкам. Ён уцякае». Аднак усё атрымалася па-іншаму. Лукашэнка не паляцеў, а прыляцеў, з калахам у жмені, а ў кулямёце не было патронаў. Ці гэта дзіцячая цацка ў руках узурпатара? Пудзіла на палахлівых? Што думалі беларускія ўдзельнікі акцыі, калі яны глядзелі на гэтую пафасную дэманстрацыю ўлады без аніякага страху? Што яны маюць справу з карыкатурай на прэзідэнта, ці чалавека? Я амаль фізічна практычна адчуў іх чалавечы гнеў, злосць, фрустрацыю і ў той жа час збянтэжанасць, прыкрасць і раздражненне. Выраз гэтай блытаніны супярэчлівых уражанняў быў выразна бачны на тварах многіх людзей, пратэстуючых на вуліцах. «Як мы маглі дапусціць гэтае, — пыталіся ў сябе, не гледзячы адзін аднаму ў вочы, але і падымаючы галаву ўсё вышэй і вышэй, — каб такі чалавек намі кіраваў 26 гадоў? Гатовы ўцягнуць суседнія краіны ў вайну, абы захаваць уладу. Той, які некалькі дзён таму загадаў сваім памагатым біць, здзекавацца, гвалтаваць і забіваць збунтаваны народ. Той, які, звяртаючыся да верных АМАПаўцаў, гучна крычаў, што зможа змагацца з усімі паўстанцамі, з падбухторшчыкамі, са здраднікамі. І ён, несумненна, меў на ўвазе сотні тысяч пратэстоўцаў па ўсёй краіне і мільёны іншых беларусаў, якія ім спачуваюць. Ёсць прычына для такой масавай апазіцыі. Аднак прычынай гэтага з'яўляецца не сам Лукашэнка. Ва ўсякім разе, не пра тое ідзе гаворка ў вельмі важны час для Беларусі. Справа ў чалавечай годнасці. Можаце гаварыць як хочаце, каб толькі прыгажэй прыкрыць яе аголенасць. Годнасць нясе кожны чалавек, а таксама кожны сабака ці котка, пра што я заяўляю з усёй адказнасцю як апякун гэтых жывёл. Пачуццё годнасці характэрнае для ўсіх млекакормячых, калі не для ўсіх жывых істот. Такім чынам, гэта не прыкмета, прызначаная толькі чалавеку, хаця толькі чалавек здольны яе вызначыць і ацаніць.

Мова культурных людзей пазбягае г.зв. брыдкіх слоў. Аднак, калі апранаць яе толькі ў пудраныя парыкі формаў, у стылістычныя складачкі метафараў, то мае яна столькі ж агульнага з мовай рэчаіснасці, як салонны і модна астрыжаны пудзель з аблышаным цюцькам, які, у адрозненне ад салоннага пародзістага пудзеля ведае, што такое свабоднае жыццё, што такое голад і бадзянне, і якія рэдкія моманты шчасця застацца самнасам з добрай косткай. У рэшце рэшт, гаворка ідзе не пра сабак, а пра мову, асноўнай функцыяй якой з'яўляецца прадстаўленне рэчаіснасці такой, якой яна ёсць. Не падманутай, не пафарбаванай, не прыхарошанай. Чалавечыя эмоцыі з'яўляюцца незваротнай часткай гэтай рэчаіснасці, таму мова, якая апісвае яе, не павінна ігнараваць гэтай пазнавальнай сферы, нават калі для гэтага выкарыстоўваецца непрыемныя слова. У мяне ёсць адзін моцны кандыдат на гэты конт. Але спачатку давайце пераглядзім слоўнік больш адшліфаваных слоў. Гнеў? Пераважна гнеў, які ахапіў беларусаў пасля фальсіфікацыі прэзідэнцкіх выбараў, быў бы распушчаны імі так хутка, як і раней. Бо такая яго прырода — жорсткая і нядоўгая, як агню з саломы. Аднак пратэсты ўсё яшчэ працягваюцца, гэта азначае, што людзей выклікае нешта большае, чым проста гнеў. Дык гэта будзе калектыўная злосць? Але і гэтага, напэўна, недастаткова для падтрымання грамадства ў стане пастаяннага ўзбурэння. Такім чынам, адзінае, што застаецца слова — недакладнае, нягладкае, збольшага падобнае на шынковае або і вулічнае. Толькі такое дакладна вызначае эмацыйны стан беларусаў. Гэта *wkurw*! Звычайны. Нацыянальны. І гэта больш, чым проста масавае абурэнне, гнеў і лютасць. Гэта ўсвядомлены настойлівы і безумоўны супраціў, свядомы прычын і паслядоўнасцей. Гэта паўстанне, вызначаны крайняй нецярплівасцю бунт, але не супраць састарэлай улады, а супраць уласнай бездапаможнасці, якая давала згоду на такую ўладу. Менавіта так доўга адкладваную згоду на рэзекцыю гангрэнознага зуба. Ён так смярдзіць, што лягчэй перажыць нялюдскі боль, чым чалавечы сорам ад таго смуроду. Урэшце адмахваешся ад ілжывага сораму і нарэшце скажаш пра тое, што і дзе баліць. Гэта першы і самы складаны крок. Другі значна прасцейшы. Хворы зуб трэба вырваць. Баліць? Баліць! Але пасля ані крышкі. І пагаварыць можна з кожным. Пра ўсё і нічога. Так.

**Міраслаў ГРЫКА**

# Адна праца зроблена двума мастакамі — новая выстаўка Тарасэвіча і Навасельскага

Новая выстаўка Лявона Тарасэвіча адкрылася 22 жніўня — зараз пасля свята Праабражэння Гасподняга, якое лічыцца адным з найважнейшых у праваслаўным літургічным календары. Урачыстасці, якія праходзяць на Святой Гары Грабарцы, штогод прыцягваюць паломнікаў з усяго свету. Менавіта тут упершыню Лявон Тарасэвіч сустрэўся з Ежы Навасельскім, адным з найбольш вядомых мастакоў другой паловы XX стагоддзя. Выстаўка „Перамяненне", якая адкрылася ў супрасльскім Музеі Ікон, гэта чарговая сустрэча двух сяброў і артыстаў.









— Ён заўсёды быў дзесьці побач, — сказаў Лявон Тарасэвіч пра Ежы Навасельскага ў час адкрыцця выстаўкі. — Была сустрэча на Грабарцы, вячэрнія размовы, мае гнеўныя пытанні. Аднойчы вечарам мы выйшлі ў поле, на іржышча на поўдзень ад Грабаркі, і ён расказаў мне столькі пра праваслаўе, рэальнасць у царкве, адносіны дзяржавы і царквы, што гэта было занадта для маладога чалавека. Пазней я сустрэўся з ім у Кракаве. Цікава, што мы ніколі не размаўлялі пра мастацтва, а пра культуру, цывілізацыю, рэлігію і маральнасць. І здавалася, што так будзе заўсёды. Калі Ежы Навасельскага не стала, аказалася, што няма да каго ехаць.

Лявон Тарасэвіч шмат гадоў быў прыслужнікам у царкве ў Гарадку, дзе адным з мастакоў, які яе размалёўваў, быў менавіта Навасельскі. Той мастак ствараў таксама для цэркваў у Кленіках, Арэшкаве і Гайнаўцы, але яго працы не былі там прыняты. На думку прафесара проста былі незразумелымі. Тарасэвіч, каб пазнаць бліжэй майстэрства Навасельскага, падарожнічаў амаль па ўсёй Польшчы, каб пабачыць яго работы.

— Першы іканаграфічны лагер на Грабарцы, візіты ў Кракаў, сустрэчы пры нагодзе адкрыцця галерэі Стармах, — успамінаў сустрэчы з Навасельскім і Тарасэвічам Юрка Асеннік. — Я меў нагоду быць прысутным пры размовах, якія помню да сёння. Гэта былі пластыры мёду, калі двух партнёраў размаўляе пра рэчы, якія для большасці, не толькі грамадства, але і веруючых, застаюцца містэрыяй. Яны ў сваіх размовах не гублялі часу на апісанне нейкай рэчаіснасці, толькі пераходзілі да сутнасці.

Сёння пунктам для чарговага дыялогу мастакоў з'яўляецца Музей ікон у Супраслі, дзе адкрылася суцэльная выстаўка работ двух выдатных майстроў — ікона Навасельскага „Праабражэнне на святой гары Фавор" з 1961 года і праца Лявона Тарасэвіча ў канвенцыі site-specific.

— Вельмі добра, што менавіта ў Музеі ікон сустрэлася гэтых двух выдатных мастакоў, — сказала дырэктар Музея ікон у Супраслі Ева Залеўская. — Навасельскі быў верны спрадвечнай кампазіцыі іконы „Праабражэнне". Яго праца падзелена на дзве часткі, у верхняй — Хрыстос з Ільёй і Майсеем, у ніжняй — спалоханыя апосталы. На самай справе можна сказаць, што стоячы перад працамі Навасельскага і Тарасэвіча ў гледача склалася ўражанне, што гэтая сітуацыя адбываецца і зараз. Карацей кажучы, гэтая выстаўка дае магчымасць у нейкай ступені ўдзельнічаць у Праабражэнні.

Канцэпцыя выставы належыць прафесару Лявону Тарасэвічу. У цэнтры нішы можам аглядаць ікону Навасельскага з калекцыі Музея Каталіцкага Люблінскага ўніверсітэта. Тарасэвіч пакрыў сцены флуарэсцэнтнай фарбай, якая адбівае бела-зялёнае святло. Такім чынам паглыбляецца яго яркасць, што сімвалізуе надзею на Уваскрэсенне.

— Пошук новай дарогі, артадаксальнай мовы, якая адначасова можа стаць сучаснай, паколькі дасягае сучасных часоў, — тлумачыў прафесар Тарасэвіч. — Тая праца, ці выстаўка, якую я паказваў у Супрасльскай акадэміі некалькі гадоў таму, з'яўляецца нейкай дарогай.

Адкрыццё выстаўкі ў Супраслі прыцягнула дзясяткі гледачоў, якія ў доўгай чарзе чакалі, каб зайсці ў Музей ікон і паглядзець працу Лявона Тарасэвіча. На вернісажы прысутнічалі айцы Генрык Папроцкі і Яраслаў Юзвік, а таксама мастацтвазнаўца і крытык Анда Ротэнбэрг.

— І адзін, і другі мастак прабуюць намаляваць доказы на існаванне Бога, — адзначыла Анда Ротэнбэрг. — Лявон Тарасэвіч у сваім мастацтве пайшоў цяжкай дарогай. Не праз навуку пісання ікон, а менавіта праз стварэнне новай мовы Тарасэвіч дае доказы на існаванне Бога.

Лявон Тарасэвіч у час вернісажу падкрэсліваў, што Ежы Навасельскі пакінуў па сабе вялікую спадчыну, якая безупынна вучыць. На яго думку яго мастацтва дае магчымасць развіцця і для Падляшша.

— Калі гэтая невялікая галерэя захавае свой узровень, яна можа стаць вельмі важным месцам на мастацкай карце Польшчы, — сказаў Лявон Тарасэвіч. — Таму што гэта нейкае вяртанне Супрасльскай лаўры на месца яе цывілізацыі. Людзі, якія наведваюць Супрасль, часта не разумеюць, што мясцовы манастыр быў адным з найвялікшых інтэлектуальных і духоўных цэнтраў праваслаўя.

На думку Тарасэвіча Супрасль, Гарадок і Заблудаў маюць шанц стаць інтэлектуальным „трохкутнікам" на Падляшшы.

— Тут ёсць манастыр з Музеем ікон, магчыма Гарадок дачакаецца адбудовы драўлянага замка сям'і Хадкевічаў разам з першым храмам з 1498 года, а трэцім пунктам мог бы стаць Заблудаў. Калі б ён змог пераадолець некаторыя бар'еры, там мог бы з'явіцца музей друку, бо менавіта ў Заблудаве з'явілася першае друкаванае слова ў гэтым рэгіёне — Заблудаўскае Евангелле, і было б карысна дапамагчы старэйшым братам па веры перабудаваць выдатную драўляную Заблудаўскую сінагогу, якая згадваецца ва ўсіх падручніках па драўлянай архітэктуры.

Выстаўка была сарганізавана Фондам Villa Sokrates, Музеем ікон у Супраслі ды Музеем Каталіцкага Люблінскага ўніверсітэта. Працы двух выдатных мастакоў будзе можна паглядзець да 5 снежня.

Тэкст і фота
**Уршулі ШУБЗДЫ**

# На Спаса ў Саках і на Грабарцы

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

Многа праваслаўных вернікаў з Гайнаўскага і Бельскага паветаў прыязджае памаліцца ў час святкавання Праабражэння Гасподняга ў Дзмітрыеўскай царкве непадалёк Сакоў. Гэтая вёска, распаложаная на мяжы паміж згаданымі паветамі, з'яўляецца адзіным сялом у наваколлі, дзе каля паловы жыхароў складаюць каталікі. Айцец Рыгор Сасна раней патлумачыў мне, што ў Саках у адлеглым мінулым пасяліліся праваслаўныя баяры, якіх нашчадкі для захавання



Сёлета на горцы каля Сакоў было крыху менш вернікаў



Святая Гара Грабарка

атрыманых прывілеяў з часам памянялі веравызнанне на каталіцкае. Суадносіны паміж католікамі і праваслаўнымі жыхарамі Сакоў ды суседніх Залешан і Тапаркоў былі і ёсць добрымі, а некаторыя католікі з Сакоў прыходзяць у царкву пакланіцца Дзмітрыеўскай іконе. На Дзмітрыеўскай горцы 19 жніўня спаткаў я жыхароў Гайнаўшчыны, якія некалькі дзён раней ішлі ў паломніцтве з Гайнаўкі на Грабарку. У абодва месцы — у Сакі і на Грабарку — прыбываюць многія праваслаўныя вернікі, калі не ў сам дзень Спаса, то ў святочны перыяд — да аддання свята Праабражэння Хрыстовага, якое выпадае 26 жніўня.

Колькасць вернікаў, якія 19 жніўня, у дзень Праабражэння Гасподняга, сабралася на горцы каля Сакоў, была крыху меншай, чым у мінулых гадах. Паломнікаў цягнула да намоленага месца, нягледзячы на санітарныя абмежаванні па прычыне эпідэміі каранавіруса. Святкаванні ў Дзмітрыеўскай царкве пачаліся 18 жніўня з усяночнай багаслужбы, на якую прыбыло менш вернікаў. Многія паломнікі, якія прыехалі маліцца 19 жніўня, дзень раней маліліся ў сваіх прыхадскіх цэрквах, або на Святой Гары Грабарцы. Праабражэнскія цэрквы знаходзяцца, між іншым, на могілках каля Новаберазова і Кленік, дзе на Спаса адбываюцца вельмі ўрачыстыя святкаванні і асвячаюцца магілы. Напярэдадні святкавання дождж крыху напалохаў вернікаў сабраных на могілках каля Новаберазова, дзе я таксама пабываў. Пасля крыху пахаладала і сабраныя заходзілі памаліцца ў царкву. Настаяцель Новаберазоўскага прыхода протаіерэй Ян Казімірук толькі перад усяночнай багаслужбай вярнуўся на парафіяльнае свята са Святой Гары Грабаркі.

Галоўную святочную літургію ў царкве святога велікамучаніка Дзмітрыя Салунскага ўзначальвалі 19 жніўня благачынны Кляшчэлеўскай акругі, мітрафоны протаіерэй Мікалай Келбашэўскі і настаяцель суседняга Дубіцкага прыхода, мітрафорны протаіерэй Андрэй Якімюк у саслужэнні шматлікіх святчэннікаў. На малітвы сабраліся прыхаджане і шматлікія паломнікі. Раней асвячалася вада, якую вернікі пілі, набіралі ў пластмасавыя бутэлькі і везлі дамоў для пазнейшага карыстання, двойчы, ноччу і днём, чытаўся акафіст да святога велікамучаніка Дзмітрыя Салунскага. Для паломнікаў служылася начная літургія, якая пачалася пасля поўначы. У час галоўнай літургіі заўважыў я многа маладых бацькоў з дзеткамі, якія маліліся на горцы на вялікай агароджанай тэрыторыі. Колькасць маладых была нават большай ад найстарэйшых паломнікаў, якія пэўна засталіся маліцца ў сваіх прыходах. Многа асоб прыступіла да споведзі і прыняло Святую Прычасць, як было і ў час начной літургіі, з пастановай перамяніць сваё жыццё на лепшае, перш за ўсё ў духовым сэнсе. З малітваў на святой горцы пачалі святкаванне прыхаджане Мужчынскага манастыра святога велікамучаніка Дзмітрыя Салунскага ў Саках, жыхары Сакоў і Тапаркоў, да якіх далучыліся іх сямейнікі з гарадоў і астатнія госці. Прадоўжылі яны святкаванне ў час святочных абедаў. Яшчэ раней бацькі куплялі цацкі і ласункі сваім дзеткам на месцы выдзеленым ажно за вялікай, пакуль пясчанай аўтастаянкай. Аднак сёлета адна палатка з цікавымі для дзетак і дарослых прадуктамі знаходзілася непасрэдна каля ўваходнай брамы на царкоўную плошчу. Выручка ад прададзеных там ласункаў, цацак і ўсяго іншага мела быць прызначана на лячэнне хворага хлопчыка Філіпа ў Градалёў, які захварэў на такую самую хваробу як і Якуб з Гайнаўкі, а менавіта на СМА — спінальную мышачную атрафію. На іх лячэнне трэба сабраць падобную суму, каля 10 мільёнаў злотых. Дапамагчы Філіпу з Градалёў заклікаў настаяцель Мужчынскага манастыра ў Саках архімандрыт Цімафей. Валанцёрка, якая раней аддавала свой час у ходзе «Летнікаў з традыцыяй» у Музеі малой айчыны ў Студзіводах, гэтым разам хадзіла разам са святарамі і ў асобную «кружку» збірала грошы на лячэння Філіпа. Калі людзі бачаць трагедыю ў іншых, праяўляюць асаблівую шчодрасць і так было на Дзмітрыеўскай горцы. Паломнікі трымалі на горцы ў кошыках фрукты для асвячэння — яблыкі, грушы, слівы, вінаград. Адны сарвалі іх на сваіх участках, каб асвячэнне было таксама Божым блаславеннем і спрыяла добраму ўраджаю фруктаў у гэтым і ў наступных гадах. Іншыя купілі фрукты ў магазінах і асвячалі, каб спажыць іх у час святочнага дня. Асвячаліся фрукты ў час хрэснага ходу, з якім святары і вернікі згодна з традыцыяй абышлі царкву тры разы. Чыталіся фрагменты Евангелля і асвячонай вадой акрапляліся вернікі. У завяршальнай пропаведзі мітрафорны протаіерэй Мікалай Келбашэўскі, маючы на ўвазе, між іншым, Мужчынскі манастыр у Саках, гаварыў пра вялікае значэнне манастыроў, дзе манахі пастаянна моляцца за людзей і куды тыя прыязджаюць на малітвы. Айцец Мікалай звярнуў увагу на супольныя малітвы вернікаў у цэрквах і індывідуальныя малітвы салдат, якія, між іншым, вырашалі аб перамозе ў паасобных ваенных дзеяннях у час Другой сусветнай вайны. Святар заклікаў да малітваў, якія спрычыняюцца да перамен у жыцці звычайных людзей. Айцец Мікалай Келбашэўскі звярнуў увагу на нядаўна праслаўленых падляшскіх мучанікаў, сярод якіх ёсць тыя, што загінулі па-суседску ад сакоўскай горкі, у Залешанах. Да іх зараз можна маліцца і прасіць у іх хадайніцтва перад Богам. Архімандрыт Цімафей, настаяцель Мужчынскага манастыра ў Саках, падзякаваў сабраным святарам і вернікам і запрасіў на салодкі пачастунак.

Двухдзённыя святкаванні папярэдзіла прыбіранне горкі. На яе агароджанай тэрыторыі знаходзяцца даўняя царква святога велікамучаніка Дзмітрыя Салунскага, якая нядаўна была грунтоўна і акуратна адрамантавана звонку і ўсярэдзіне, званіца, збудаваная збоку, якая была таксама звонку прыгожа адрамантаваная і прыхадскія могілкі. У састаў манастырскага прыхода ўваходзяць Тапаркі, але тапаркоўскія могілкі распаложаны непадалёк вёскі. Зараз няма такой традыцыі, каб паломнікі неслі драўляныя крыжы і ўсталёўвалі іх непадалёк ад Дзмітрыеўскай царквы, як гэта робіцца на Грабарцы. Аднак непадалёк царквы на горцы стаяць старыя і часткова прынішчаныя драўляныя крыжы. Хутчэй за ўсё гэта не надмагільныя крыжы, толькі прынесеныя паломнікамі. Каля магіл стаяць перш за ўсё помнікі сучаснай формы. На лавачках каля сваіх магіл прысядалі старэйшыя жыхары Сакоў. Адпачывалі тут таксама старэйшыя паломнікі, якія ў цяньку паміж высокімі дрэвамі хаваліся ад сонца. Яно ў святочны дзень выйшла з-за хмар пазней, але моцна свяціла. Пасля рамонту царквы была выбрукаваная дарога ад яе ажно да ўязной брамы і каля яе былі ўсталяваны лавачкі для адпачынку, якія ў час свята таксама былі заняты старэйшымі вернікамі. Архімандрыт Цімафей паінфармаваў, што да святкавання ў гонар святога велікамучаніка Дзмітрыя Салунскага, якое мае адбыцца ў пачатку лістапада, прадбачваецца завяршэнне будовы велізарнай аўтастаянкі, распаложанай па двух баках агароджанай тэрыторыі на горцы. Калі на Спаса ў вялікай ступені запоўнілася яна аўтамабілямі паломнікаў, у многіх месцах на яе паверхні знаходзіўся пясок. Пілігрымы, што затрымаліся ў больш грузкіх месцах апасаліся, ці не загразнуць іх аўтамабілі ў пяску. Аднак, крыху пагробшыся, выязджалі.

У нядзелю, 23 жніўня, калі яшчэ не закончыўся перыяд свята Праабражэння Хрыстовага, паехаў я з сямейнікамі памаліцца на Святую Гару Грабарку. Літургія служылася там у палявым алтары, побач тоўстых сосен і старых дрэў. Малітвы ўзначальваў духоўнік манашак архімандрыт Ігнацій у саслужэнні свяшчэннікаў, якія раней спавядалі вернікаў. Прыбыло многа паломнікаў, якія яшчэ ў святочны перыяд хацелі памаліцца тут і пакланіцца Іверскай іконе Божай Маці — копіі іконы з Афона, з верай, што праз пасрэдніцтва гэтай іконы Багародзіца адгукаецца на просьбы і дапамагае ў розных жыццёвых выпрабаваннях. Частка вернікаў у час малітвы трымала ў руках запаленыя свечкі, а некаторыя асобы неслі невялікія драўляныя крыжыкі ў руках, якія астаўлялі на горцы. Вернікі, якія рэдка бываюць у Жаночым манастыры святых Марфы і Марыі, заходзілі ў манастырскі магазін і куплялі тут іконкі і розныя памяткі. Паломнікі, якія часцей наведваюць Грабарку, бачаць, што ў жаночым манастыры, якога дзейнасцю кіруе ігумення Ерміёнія, часта вядуцца рамонтныя і будаўнічыя працы. Іншыя вернікі яшчэ маліліся ў час заказных малебнаў і паніхіды. Малітвы і тут узначальваў архімандрыт Ігнацій, які даглядаў яшчэ за працамі ў царкве. Пазней быў аб'яўлены абедзенны перапынак і пасля яго ізноў паток паломнікаў і турыстаў стаў уваходзіць на святую гару і заходзіць у царкву святых Марфы і Марыі. У іх гонар напісана вялікая ікона, перад якой у царкве таксама маліліся вернікі. На адыходнае набіралі яны ваду з калодзежа, збудаванага побач горкі і абмывалі хворыя месцы ў ручайку, які плыве збоку. Некаторыя вернікі пакідалі на беразе невялікія палаценцы, якімі раней выцiралі хворыя месцы, так як здаўна масава робіцца на Крыначчы каля Гайнаўкі.

# Павел Латушка:

## — Я вам дзякую за тое, што мы разам!

— Я поўны прызнання для выбару дырэктара Латушкі і яго акцёраў, — кажа Конрад Шчэбёт, віцэ-старшыня па міжнародных справах Польскай секцыі Міжнароднай асацыяцыі тэатральных крытыкаў AICT/IATC. — Іх выбар надзвычай адважны і небяспечны. Ці многія з нас, жывучы ў дабрабыце, рашыліся б на такі супраціў? Я ў гэтым сумняваюся! Яны ж не ведаюць ці ў рамках пакарання іх толькі выганяць з працы, там можа здарыцца і нешта горшае. Кожны бачыць якія там арышты і смяртэльныя ахвяры...

Гэтыя словы спадар Шчэбёт гаворыць у Беластоку непасрэдна пасля чытання ў рэжыме анлайн п'есы беларускага аўтара Дзмітрыя Багаслаўскага «13 першых правіл баскетбола, сфармуляваныя Джэймсам Нэйсмітам». Спектакль з-за пандэміі каранвіруса адбываўся без публікі. Але яго пабачылі і ў Польшчы, і ў Беларусі. П'еса ў прамой трансляцыі ішла 21 жніўня г.г. на фейсбук-старонцы Драматычнага тэатра імя Аляксандра Вянгеркі ў Беластоку. Пасля прэм'еры беласточкія творцы яшчэ звязаліся анлайн з Паўлам Латушкам, Дзмітры Багаслаўскім, акцёрамі Купалаўскага тэатра і крытыкам Андрэем Масквіным. Ды нягледзячы на віртуальны характар мерапрыемства, па абодвух баках адчувалася вялікая эмацыйнасць і дух сяброўства. Гэта было прыгожа і шчыра!





* * *

Для тых, хто не надта адсочвае апошнія падзеі ў Беларусі, некалькі слоў паяснення. Павел Латушка — асоба вядомая на Беласточчыне. Яшчэ да таго як стаў дырэктарам Купалаўскага тэатра ў Мінску ён шмат гадоў працаваў у дыпламатыі, між іншым, быў генконсулам у Беластоку, дзе займеў павагу і шмат сяброў. Зараз у знак пратэсту супраць фальсіфікацыі прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі ён адмовіўся кіраваць самым прэстыжным тэатрам краіны. Разам у адстаўку падаліся і акцёры, таму іх грамадскі супраціў занесены прыхільнікамі змен на штандары Рэвалюцыі Годнасці. Сам Павел Латушка — член Каардынацыйнай рады, якая дамагаецца паўтору прэзідэнцкіх выбараў з міжнароднымі назіральнікамі і звальнення з арышту палітычных вязняў. Рада, як інфармуюць СМІ, увесь час знаходзіцца пад псіхалагічным «абстрэлам» рэжыму. Іх безупынна выклікаюць на допыты ў пракуратуру, інвігілююць ды саджаюць за краты. Пасля падобных допытаў двух прадстаўнікоў Рады — Сяргей Дылеўскі і Марыя Кавалькова былі затрыманы і актуальна прабываюць у ізалятарах.

Павел Латушка ў размове з беластоцкімі акцёрамі прызнаўся, што ён увесь час у дзеянні і ўжо каторую ноч не спіць. Таму надзвычай удзячны за жэст салідарнасці з боку беластоцкіх калег.

— Я вам дзякую за тое, што мы разам, — сказаў ён.

— Як яшчэ можам вас падтрымаць, дапамагчы? — пыталі ў Беластоку.

— Для нас вялікай падтрымкай з'яўляецца ўжо тое, што вы звоніце і цікавіцеся нашымі справамі, — гаварылі іншыя акцёры, — што пытаеце пра жыццё і настрой. Такія жэсты бясцэнныя. Яны падтрымліваюць на духу. А што мы хацелі б ад вас яшчэ? Вядома, мы б хацелі далей прыязджаць і выступаць перад вашай цудоўнай публікай. Але гэта прапанова на іншы час, на час, калі сітуацыя стабілізуецца. А зараз для нас самае важнае тое, каб польскія медыя гаварылі пра нас. Каб не страцілі цярплівасці і цікавасці ды як найшырэй асвятлялі і агучвалі цяперашнія падзеі ў Беларусі.

— Кантакты з беларускім тэатрам, на самай справе, — кажа Конрад Шчэбёт, — у нас былі ад заўсёды. Я ведаю, што такую супрацу вядзе наш Лялечны тэатр і Тэатр «Вершалін». Ну, Іаанна Троц, якая працуе ў карысць беларускай меншасці, гэта, так сказаць, натуральнае звяно паміж нашымі народамі. Хачу сказаць, — працягвае Конрад Шчэбёт, — усе акцёры з энтузіязмам далучыліся да нашай прапановы. Для іх гэта быў важны выклік, падтрымка сябрам. Бо што лепшага як спектакль можа прыдумаць акцёр?

* * *

П'еса «13 першых правіл баскетбола, сфармуляваныя Джэймсам Нэйсмітам» напісана ў 2018 годзе. Яна распавядае, здавалася б, пра апалітычнае жыццё і праблемы моладзі ў сучаснай Беларусі. Героі, два сужонствы, хоць звонку выглядаюць на шчаслівых і прыкладных грамадзян, пакутуюць ад недахопу шчырасці. Той фальш і мана прасочваецца праз іх інтымную сферу жыцця. Гэта ўсё канчаткова вядзе да вялікага ўзрыву і трагічнага фіналу.

— Я не хацеў бы, каб сюжэт майго твора разглядалі праз прызму сучасных палітычных падзей, — заявіў у час відэатрансляцыі аўтар Дзмітры Багуслаўскі. — Тут проста такая гісторыя, якая вырасла з беларускай рэальнасці.

— Я аднак бачу шмат паралелей з сучасной палітычнай сітуацыяй, — не пагаджаўся тэатразнаўца, прафесар Андрэй Масквін, — і гэта на розным узроўні. Тут вельмі відавочнае разыходжанне паміж абавязваючымі законамі і тымі, якія дыктуе нам жыццё. Дарэчы, п'есы сучасных беларускіх драматургаў вельмі часта кранаюць тэму сям'і. Гэта такая спроба паказаць кандыцыю грамадства ў мініяцюры, усе яе балячкі, слабасці і памкненні.

Усе асобы, якія прынялі ўдзел у падрыхтоўцы спектакля, робяць гэта бясплатна. Арганізатары выказвалі вялікую падзяку аўтару і перакладчыку за згоду на бясплатнае выкарыстанне пладоў іхняй працы дзеля гэтай высакароднай і некамерцыйнай мэты. Яны звярнуліся да ўсіх устаноў культуры ў Польшчы, каб падзяліліся трансляцыяй чытання з Беластока на сваіх сайтах і профілях у сацыяльных сетках.

— Можа за намі пойдуць іншыя, — спадзяецца Конрад Шчэбёт.

* * *

У чытанні п'есы прынялі ўдзел акцёры Беластоцкага лялечнага тэатра — Ізабэла Вільчэўская і Магдалена Дамброўская, Патрык Алдзіеўскі з Драматычнага тэатра імя Аляксандра Вянгеркі, Рафал Гансоўскі з Тэатра Вершалін і Іаанна Троц з Тэатра Чрэва.

— У мяне шмат сяброў, якія працуюць у розных тэатрах, — кажа Іаанна Троц. — Я ім пішу ды пытаю ці з імі ўсё о'кей. Ці яны дома, што адчуваюць. Ды проста, што ў іх чуваць — такія звычайныя размовы. Ведаю такіх, што былі затрыманы і ўжо выйшлі з турмы. Я вельмі перажываю і баюся за іх. Па-першае, хочацца, каб яны былі здаровымі, каб гэтая сітуацыя і арышты не забілі ў іх творчага духа. А, па-другое, мне здаецца, што яны ўсе вельмі шчаслівыя. Шчаслівыя ў сэнсе адчування, што нешта змянілася і ўжо немагчыма вярнуцца да таго, што было раней. Палякі могуць на гэта глядзець з настальгіяй і цешыцца, што нешта прыгожага адрадзілася ў душы грамадства. Людзі адчулі сябе вольнымі. Яны маюць сілу, каб змагацца за лепшую Беларусь.

— Ці вы зараз не баіцеся? — пыталі ў купалаўцаў у час відэаразмовы беластоцкія калегі.

Адказ даў Міхась Зой:

— Вядома, баімся. Але ўжо гэта такі страх, якія нас не скоўвае. Мы ведаем што няма іншай дарогі. Няма ў нас іншага выхаду.

Фота і тэкст **Ганна КАНДРАЦЮК**

## Ухабістыя кавалкі ваяводскай дарогі

Ёсць ухабістыя кавалкі ваяводскай дарогі № 687 з Юшкавага Груда ў Навасады пад Гайнаўкай. Яны, між іншым, у вёсцы Новае Ляўкова ад скрыжавання з павятовай дарогай да бетоннага моста на рачулцы Баброўка і ад пачатку Новага Ляўкова да чыгуначнага пераезда ў вёсцы Плянта (тут будзе 500 метраў). У гэтых месцах даўняе старое асфальтавае палатно. Грузавыя аўтамабілі крышаць яго ды крышаць і астаюцца небяспечныя ямкі. Патрэбная тут г.зв. бітумічная накладка. Вось такая, якую год-два таму паклалі ад пачатку Новага Ляўкова да вышэйзгаданага моста. Тут то зараз разгон аўтамашын.

Па просьбе раднага з Новага Ляўкова войт Нараўчанскай гміны шле і шле пісьмы да Падляшскага праўлення ваяводскіх дарог (ППВД) у Беластоку. Адтуль даюць адказы, што няма грошай на адпаведны ды грунтоўны рамонт (такі адказ быў у пачатку гэтага года) або што дзіркі ў маставой пастаянна латаем і ўсё тут пад кантролем. Мы — ППВД — маніторым.

Ды дзе яно там. На паперы то толькі так прыгожа выглядае. Не ў нашай тутэйшай прасторы. На ваяводскай артэрыі № 687 вялікі рух. Самаходы і трактары, едучы па ўхабінах, ляскацяць рысорамі і коламі ды голасна грукочуць. За 60 км у ППВД у Беластоку гэтага не чуваць. Далёка ж адсюль, вялікая далячынь. **(яц)**

## Аднавілі дарогу

Дарога вядзе з калёніі Новага Ляўкова Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета на сенажаць над Бабройкай і за лесам Плянта. Па гэтым шляху можна даехаць да асфальтавай павятовай дарогі з Плянты ў Семяноўку цераз два масткі на вышэйзгаданай рэчцы ды высокі чыгуначны пераезд на жалезнай дарозе з Гайнаўкі ў Семяноўку. Сюды па сена ездзяць некаторыя жыхары Гарадзіска і Міклашэва. У мінулыя гады было іх шмат.



Зараз гэтая яшчэ сёлетняй вясной ухабістая, гразкая і балоцістая дарога роўная і прыемна па ёй ехаць. Мясцовыя жыхары ведаюць яе як дарогу на Дзікі захад. Цяпер ажно вачам не паверыць, так яна змянілася. Ні адной ухабіны. Ехаў я па ёй 22 жніўня гэтага года, два тыдні пасля заканчэння рамонту.

**Тэкст і фота Янкі Целушэцкага**

## Сарны выходзяць з лесу

У лесе з перавагай сосен і елак каля вёскі Плянта Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета жывуць, між іншым, сарны. Маюць тут удосталь травы на лугах і вады, нават у сёлетнюю засуху. Шмат гадоў таму на зялёных угоддзях каля сваіх сядзіб сяляне выкапалі ставы, між іншым, Валодзя Клімюк і Яўген Клімюк. Яны ўжо не жывуць, але ставы асталіся. Глыбокі вадаём спадара Валодзі і цяпер, калі так суха, не высыхае.

Зараз ужо даспелі сакавітыя яблыкі колішніх парод у садзе Валодзі Клімюка і сюды панадзіліся сарны. Яны, чуйныя і палахлівыя, выходзяць з-за густых кустоў і прыходзяць у садок і на пусты панадворак у розныя поры дня: то раніцай, то пад вечар, але бываюць і ў поўдзень. Не вядома калі за імі наглядаць. Людзі і сабакі іх не пужаюць, бо якраз тут іх няма. Адна сарна-матка часамі прыводзіць з сабою малую сарэнку. Прыгожыя звяркі. **(яц)**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)

www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Мае канікулы пад поўным сонцам на полі



Калі надышоў час пандэміі каранавіруса, здавалася, што ўвесь свет спыніўся — фабрыкі закрылі, цэрквы і касцёлы таксама не былі ўжо даступнымі для людзей, у школе пачалося дыстанцыйнае навучанне, але... нічога не памянялася на гаспадарцы. Жывёла, якую даглядае мой бацька, як заўсёды чакала корму. Перад палявой работай таксама нікуды чалавек не мог схавацца. Нягледзячы на тое, што раней ад такой працы ўдавалася мне ўцячы, зараз бацька не хацеў чуць ніводнага тлумачэння, тым больш што ішла цяжкая хмара. Сена не магло прамокнуць. Я была прымушана прайсці хуткія трактарныя курсы і пасля няпоўнай гадзіны я ўжо зграбала сена. Мне здавалася, што імгненна спраўлюся з гэтай работай і спакойна пайду абедаць. Сонца моцна грэла, сыплючы моцныя прамені прама на наша поле і невялікі трактар, на якім я сядзела, на жаль, без шапкі ці хусткі на галаве... Ухх! Так працуючы без абеду сустрэў мяне вечар. Наступнага дня чакала мяне тая ж работа. Гэтым разам я ўпэўнена села за руль трактара з хусткай на галаве і цукеркамі пахаванымі па кішэнях маіх рабочых нагавіц. Нават ужо не перашкаджала мне тое, што на ўхабінах я падскоквала як шарык, а мае ногі лёталі як драўлянага паяцыка. У сваю чаргу наступнага дня тыя жывыя ногі з цяжкасцю адрываліся ад ложка — усё мне балела. Зараз, калі бабуля расказвае пра гэта, як цяжка яны працавалі ў маладосці, я прынамсі крыху разумею, як можа стаміць праца ў полі пад поўным сонцам! Паколькі пачынаецца новы навучальны год, магу сабе абяцаць руплівасць у навуцы, каб у будучыні не стагнаць пасля так цяжкай працы.

Юлька Грэсь
з II Ліцэя ў Беластоку

## Чаму ў Тафілаўцах дзіўныя прозвішчы?

Чаму важна і карысна пісаць у «Ніву»? Асабліва ў наш час, калі інфармацыю і веды скарыстоўваем дзеля аднаразовых памкненняў і адразу выкідаем іх з памяці. Якая карысць ад звычайнага, здавалася б, запісу?

Вось у «Легендах і паданнях», зборніку выдадзеным Акадэміяй навук Беларускай ССР у 1983 годзе, мы знайшлі легенду ад нашай Гайнаўкі. Як не цікава, яе запісаў ніўскі карэспандэнт Мікалай Панфілюк з Дубіч-Царкоўных. Легенда была надрукавана ў «Ніве» № 51 у 1979 годзе. Яна прамаўляе не толькі як метрыка тоеснасці. Тут і рэгіянальная цікавіна. Мы самі ведаем шмат сяброў, якія маюць такія ж «легендарныя» прозвішчы. Іх сустракаем не толькі ў Тафілаўцах, але і ў Бельску, Гайнаўцы, Беластоку... А трэба дадаць, што ў наш мабільны час яны ўжо жывуць па ўсім свеце.

А вось і славуты запіс:

Старэйшыя людзі ў Тафілаўцах, што ў гміне Дубічы-Царкоўныя, яшчэ памятаюць, што іх пан называўся Вэлевэцкі. Пан гэты пахрысціў амаль усіх дзяцей у Тафілаўцах. І кожнаму хрэсніку надаў цікавае прозвішча. Як гэта адбывалася? Пан глядзеў на здольнасці бацькоў дзяцей. Таму ў вёсцы ўзніклі такія прозвішчы: Корч, Жубэр, Ціхі, Дзіда, Рыбак, Жак, Топур, Пень, Роля, Кулік, Фурса...

Згаданы пан — не выдумка, гэта рэальная асоба. У яго памяць асталася ўрочышча-палетак, якое называюць Вэлевэччына... Кажуць яшчэ, што перад смерцю гэты пан утапіў скарбы ў бяздоннай крыніцы, што знаходзілася непадалёк яго сялібы. Там і зараз балота, якое ніколі не засыхае.

А ці ведаюць гэтае месца сучасныя жыхары Тафілаўцаў? **(гак)**

Міра ЛУКША

## Дачакалася!

І пад масачкай пазнае вучня школа,
ссумаваўшыся па гомане вясёлым.
Усё лета сцены сонцам пазалочаныя,
днём чакалі, ночу стылі змрочныя,
каб той верасень! Ад самага прадвесня
сэрца школы біла рытмам ціхай песні,
у мурах, у калідорах, на парогах,
у чаканні тупатання ножак многіх,
смеху, крыку, піску, шэлесту старонак,
рыпу крэйды на дошцы чорнай ці зялёнай...
А на сценах у літаратурным класе
пісьменнікі глядзелі: дачакаемся.
Рыпнулі дзверы. І пранізлівым званком
ускалыхнуўся ўвесь другі родны дом.

## УВАГА КОНКУРС! № 36-20

Без чаго найбяднейшы чалавек абедаць не стане? Без л.....

(з народнага)

Адказ на загадку № 32: мурашнік. Узнагароду, кашульку з лагатыпам Сустрэч «Зоркі», выйграў Каміль Максымюк. Віншуем!

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку” да 15 верасня 2020 г., найлепш па электроннай пошце.
Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Загадкі з роднай хаткі



Фота Адама Паўлоўскага

*Данута Бічэль-Загнетава*

# Восень

Восень пацеркі рассыпала на мох,
Іх нізацъ жураўка дапамог.
Везла восень пэндзлікі на возе,
Малявала лісце на бярозе.
На ручай пускаў лістоту клёнік,
Кожны лісцік — каляровы чоўнік.
Холадна, маркотна без адновы —
Стане Беларусі ліст кляновы.

# Міфы
## старажытных беларусаў

**Ляшчына** — вядомая як арэшына, была для беларусаў свяшчэнным дрэвам. Нашы продкі верылі, што ў ляшчыну ніколі не б'е маланка, таму ў час навальніцы з перунамі хаваліся пад гэтае дрэва. Таксама ідучы ў поле або ў лес, каб засцерагчыся перад бурай з маланкамі, людзі затыкалі за пояс маладыя парасткі ляшчыны.

Моц пакідала дрэва толькі адзін раз у год і тады гром псаваў арэшыну — чарнелі плады ды згаралі яны ўнутры.

Беларусы верылі, што арэшына здольная зацвісці, аднак яе кветкі відаць адно ўначы на Дабравешчанне або ў Чысты чацвер перад Вялікаднем. У народзе верылі што той, хто сарве і захавае такі цвет ляшчыны, той у купальскую ноч знойдзе скарб.

Яшчэ нашы продкі верылі, што ляшчына звязвае зямлю і неба. Менавіта таму яе галінкамі адганялі нячыстую сілу, змей і чорныя хмары з градам.

Ляшчыну выкарыстоўвалі ў магічных мэтах. Яе падкладвалі ў насенне і збожжа для сяўбы, каб спарадзіць ураджай. Таксама кармілі авечак на Юр'я і рассыпалі па хаце на Каляды.

На Каляды абдорвалі дзяцей арэхамі, каб у іх развіваўся інтэлект. А гнуткі куст ляшчыны з мноствам пладоў, асабліва здвоеных, сімвалізаваў каханне і пладавітасць. Менавіта здвоены арэх клала маладая пад ложак у шлюбную ноч, што мела паспрыяць нараджэнню хлопчыка.

У народзе прадказвалі ўраджай арэхаў па прыкметах надвор'я. Калі на Каляды ці на Новы год быў вецер, то летам чакалі мноства арэхаў. А вялікі ўраджай арэхаў абяцаў шмат снегу на наступаючы новы год. Апошнюю прыкмету варта запамятаць і праверыць, паколькі ў гэтае лета арэхі ўрадзілі як ніколі. Ды і засумавалі мы ўжо за сапраўднай зімой са снегам!

Варта дадаць, што на Падляшшы ёсць прыгожая прымаўка, якая гаворыць пра дабрыню людзей:

— Вун такі добрызны, што і орыхом з вамі подзіліцэ!

*(Адрэзак на аснове «Беларускай міфалогіі для дзяцей»)*

**гак**

# Качка з грыбамі
## — беларускі шэдэўр

Мы звыкліся, што смажаную качку найлепш накрыпаць яблыкамі. Такі састаў для пячэння можна купіць у сучасных магазінах. Аднак для сапраўдных гурманаў гатовы састаў для пячэння гэта занадта вялікая сумесь араматычных прыпраў, як карыца, мускатны арэх ці перац чылі, плюс кансерванты — усё гэта зменіць далікатны і непаўторны смак мяса. Юры Качук у сваёй «Беларускай кухні» прапануе нам смажаную качку з грыбамі. Для стравы найлепш падыходзяць лісічкі, шампіньёны, апенькі, чырвонагалоўцы, а ў пачатку вясны найлепшымі з найлепшых грыбоў будуць смарчкі, якія ў смаку напамінаюць славутыя труфелі.



**Складнікі:**

1 качка,
400 грам грыбоў,
1 цыбуліна,
30 грам тлушчу,
1 яйка,
1 лыжка мёду,
прыправы,
соль.

Качку ачысціць, нацерці соллю, перцам, мёдам. Грыбы адварыць, дробна нарэзаць, падсмажыць з цыбуляй, дадаць яйка, соль, перац. Так падрыхтаваным фаршам накрыпаць качку, закрыць і смажыць у духоўцы каля дзвюх гадзін.

Смажаная качка з грыбамі падыходзіць на святочны стол, ёй таксама варта пачаставаць гасцей з замежжа.

Смачна есці! *(гак)*

# Польска-беларуская крыжаванка № 36-20

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.




**Адказ на крыжаванку № 32-20:**

Блог, лах, кіно, лавачка, Лена, клён, рэ, лось, ток, сыты, жыта. Баран, іклы, калёсы, лівень, банан, хоча, ты, рот, нядарэка.

Узнагароды, беларускія літаркі на камп'ютарную клавіятуру, выйграла **Дыяна Іванюк.** Віншуем!

# Хачу яшчэ намяшаць у музыцы

Сёння ў нас у гасцях **Янка Карнілюк** — лідар падляшскай групы „Зорка”, вакаліст, гарманіст і аўтар тэкстаў. Нарадзіўся ў 1971 годзе ў вёсцы Старое Беразова на Гайнаўшчыне. Не курыць, не п’е алкаголю, ходзіць у трэнажорны зал. Даць інтэрв’ю прыехаў на веласіпедзе, які паставіў каля кавярні „Wedel” у самым цэнтры Беластока. Размаўляем на роднай мове.

**Юрка Буйнюк: — Пачнем з самага пачатку. Хто Цябе вучыў спяваць ды іграць на гармоніку?**

**Янка Карнілюк:** — Я — самавук. Талент я дастаў ад Бога, а генетычна ўнаследаваў ад бацькі, які прыгожа іграў на гармоніку і спяваў па вяселлях. Тата паказаў мне як іграць „Катюшу” і потым я сам пачаў іграць іншыя песні. Маю музычны дар і амаль абсалютны (у 70%) музычны слых. Музыка гэта маё найбольшае зацікаўленне. Такі парадокс — калі мне было трынаццаць-чатырнаццаць гадоў, дык я заўсёды паўтараў, што ніколі па-нашаму не буду спяваць, таму што гэта музыка для старых людзей. І пазней лёс так склаўся, што я вельмі палюбіў спяваць нашы народныя беларускія, рускія і ўкраінскія песні, якія спяваю да гэтай пары. Я музыкай жыву штодзень. Тое, што калісьці спявалі, мне вельмі падабаецца. Калі гляджу тэлепраграму „Играй гармонь”, дык сяджу і плачу перад тэлевізарам. Безумоўна музыка — найбольшае маё хобі. Я цалкам жыў, жыву і буду жыць музыкай.

**— Скажы нам, як Ты апынуўся на беларуска-беластоцкім музычным рынку?**

— Дзякуючы перадачы Уладзіміра Праховіча „Канцэрт пажаданняў” (які зараз гучыць у эфіры Радыё Беласток кожную суботу), у 1990-я гады пачаў я цікавіцца нашай беларускай танцавальнай музыкай. Ад распаду „Дубіноў” да 2004 года (тады гурт „Зорка” яшчэ не існаваў), на нашым беларуска-беластоцкім музычным рынку рэй вялі два гурты — „АС” і „Прымакі”. Іншыя беларускія калектывы былі далёка ззаду. Калі пазней з’явілася першая кружэлка „Зоркі”, дык адразу заняла перадавое месца на нашым музычным рынку ў Беластоку.

**— А як узнікла задума стварыць гурт „Зорка”?**

— У першай дэкадзе новага стагоддзя, калі я пераехаў з роднай вёскі ў Беласток, вельмі цяжка было знайсці працу. Не меў я сталай працы, хапаўся розных заняткаў, была слабая зарплата. Яшчэ ў Старым Беразове я спяваў у вясельным калектыве. Тады я падумаў, што ствару свой калектыў, каб проста падзарабіць. У 2003 годзе пазнаёміўся я з вядомым беластоцкім аранжыроўшчыкам Андрэем Ёршам, які меў сваю музычную студыю ў Беластоку. Тады ён канчаў працу як клавішнік у польскай групе „Impuls”. Я падсунуў ідэю стварыць беларускі гурт. Калі Андрэй пакінуў „Impuls”, мы заснавалі свой гурт — я як вакаліст, а Андрэй як клавішнік і аранжыроўшчык.

**— Адкуль узялася назва гурта? Мне асацыюецца з ніўскім дзіцячым дадаткам „Зорка”?**

— Раней мы ігралі пад назвай „Minimal”, але мы не былі папулярныя. Увогуле пачаткі нашага гурта былі вельмі цяжкія. Нас ніхто не прасіў на імпрэзы, таму што тады на беларускай сцэне на Падляшшы лічыліся такія гурты як „АС”, „Прымакі” і „Лідар”, а мы былі новенькія. Пастанавілі памяняць назву калектыву. Аднойчы да Андрэя Ёрша прыехала маці і расказвае нам: „Была ў нас Зорка, а мы як былі дзецьмі, дык на ёй папаездзілі!”. Мы з Андрэем пытаем яе, што ж гэта за Зорка. А яна нам кажа: „Конік быў у нас такі”. І ад гэтага коніка ўзялася назва.

**— Ці адзінай умовай набыцця папулярнасці была змена назвы?**

— Не, тады мы пастанавілі таксама ствараць больш сучасную музыку ад той, якую ігралі „АС”, „Прымакі” і „Лідар”, такую, якую ігралі якраз на дыскатэках у Польшчы.

**— У мяне асабісты сентымент да кампакт-дыска „Давай, давай”, таму што матуля яе купіла мне летам 2005 года пад мой дзень нараджэння. Гэта быў альбом з двума дыскамі — першы ў стылі поп-фольк, другі — у модным стылі данс.**




— Мы дайшлі да вываду, што няма сэнсу рабіць аднадыскавы альбом і сталі выпускаць двухдыскавыя кампакт-дыскі. Кошт выпуску двухдыскавага альбома практычна быў такі сам як адной кружэлкі. Першы дыск быў адрасаваны старэйшым слухачам, другі — моладзі. Думаю, што гэта было вельмі добрае рашэнне. Роберт Бальцэжак зрабіў аранжыроўкі да альбома „Давай, давай” і ўпершыню зрабіў рэмікс песні „Кохана моя” ў дыскатэкавай версіі. Тады пры альбоме „Давай, давай” мы выпадкова сустрэліся з Робертам і сталі супрацоўнічаць.

**— Шчыра кажучы, дыск у стылі данс мне найбольш падабаўся.**

— На той час [2004-2014 гады — Ю. Б.] гэта была навіна. Я думаю, што мы тады былі так папулярныя, што мала хто з намі раўняўся.

**— Трэці альбом „Гуляй, пока гуляется” інспіраваны быў рускім танцавальным шансонам з Нямеччыны, такімі выканаўцамі як Вася Пранікаў...**

— Так, „Гуляй, пока гуляется” гэта песня з яго рэпертуару. Я не кажу, што гэта мае песні. „Зорка” была вядомая тым, што мы перараблялі вядомыя ўсходнеславянскія народныя песні для танцавальных мэт. Калі нам файная песня папала ў вуха, дык мы стараліся яе перарабіць на сучасны музычны лад.

**— Аранжыроўку да песні „За тобой” з альбома „Гуляй, пока гуляется” зрабіў Marco Van DJ.**

— Так. Ты добра праінфармаваны.

**— Маю большасць дыскаў „Зоркі”, а на іх вокладках усё напісана...**

— Ну так, у 2009 годзе Марк таксама зрабіў аранжыроўку да песень „Калінка-малінка” і „Ты ж мене підманула” [альбом „Давай, Зорка” — Ю. Б.]. Марк, падобна як і Роберт Бальцэжак, мае вельмі добры патэнцыял дляператварэння народных песень у стылі данс.

**— У дыскаграфіі „Зоркі” вылучаецца альбом-жамчужынка „Мая зорачка”, які Вы запісалі з былой вакалісткай групы „Тройка”...**

— Малгажата прыязджала ў студыю Андрэя Ёрша запісваць свае песні і так мы з ёй пазнаёміліся. Мяне яна вельмі захапіла сваім самавітым вакалам. Гэта вельмі таленавітая і адукаваная жанчына. Яна — палячка, але вялікая фанатка ўсходнеславянскай музыкі, песень на рускай і ўкраінскай мовах. Разам з ёй мы запісалі шмат прыгожых песень („Лунявая луна”, „Дівчина весна” і іншыя). Мы разам з ёй выступалі таксама на вяселлях ды канцэртах.

**— З альбома „Мая зорачка” найбольш мне вядомая беларуская песня „Палюбіла я яго” ў версіі данс...**

— Кожная наша песня мела шмат версій і мы на сотні спосабаў „малолі” адну і тую ж аранжыроўку. Часта бывала так, што песня ўжо гатова для альбома, а я кажу: „Не, Андрэй, гэта не тое, трэба зрабіць інакш”. Тады мы з Андрэем вярталіся дык нанава рабілі аранжыроўку ці запіс той песні.

**— У 2009 годзе кружэлкай „Давай, Зорка” вы крыху зышлі на так сказаць „народзеншчыну”.**

— Скажу так, час правярае запатрабаванасць на музыку. Я тады быў без Андрэя Ёрша і сам стараўся дапасавацца да таго, чаго тады людзі слухалі. І я тады так камбінаваў, што дайшоў да такой ступені, што альбом „Мая Зорачка” на Грабарцы прадаўся ў трох тысячах экземпляраў. Затое альбома „Давай, Зорка” прадалося толькі 500 экземпляраў.

**— А як прадаваліся астатнія альбомы?**

— Прадалі мы дзясяткі тысяч кампакт-дыскаў. Канкрэтна мы нават не ведаем дакладна колькі...

**— Былі піраты?** (смех)

— Заўсёды былі, ёсць і будуць музычныя піраты (*смех*), але, шчыра кажучы, намі былі прададзены дзясяткі тысяч кружэлак. Мы іх самі выдавалі без ніякага музычнага выдавецтва, таму што нам так было выгадней...

**— У 2011 годзе вы выпусцілі першы альбом на польскай мове „Dens ma sens” з тэкстамі Агнешкі Чэрвінскай.**

— Так, гэта быў адзіны наш польскі альбом. Тады мне абрыдла тое ігранне і я хацеў аставіць па сабе памятку таксама і ў польскай музыцы Шчыра кажучы, я занадта не прыкладаўся да гэтага альбома. Гэта былі пераклады нашых аўтарскіх і вядомых народных беларускіх, рускіх і ўкраінскіх песень на польскую мову. Песня „Dens ma sens” гэта польская версія аднаго з першых нашых хітоў „Давай, давай”. Увогуле 2011-2012 гады гэта пераходны перыяд у музыцы. Тады ў Польшчы пачалося вяртанне моды на дыска-пола. Польскі альбом быў файны таму, што Агнешка напісала прыгожыя тэксты. У музычным плане гэта быў таксама добры матэрыял. Аднак я тады быў страшэнна стомлены і сам заўважыў, што наш польскамоўны альбом быў зроблены на сілу. Мы амаль дзесяць гадоў ігралі без перапынку, штогод выпускалі новыя альбомы. Гэта была вельмі цяжкая праца. Заўсёды так ёсць, што чалавек мусіць „перазагрузіцца” і польскі альбом быў тым „рэсэтам”, які дапамог мне сабрацца да купы.

**— А як палякі ўспрымаюць Вашу музыку.**

— Мы былі першым усходнеславянскім калектывам, які іграў пад той самай назвай і на польскім рынку, і на нашым беларускім панадворку. Мы не мусілі мяняць назвы гурта, так як гэта рабілі іншыя беларускія калектывы (напр. „Лідар” ці „Прымакі”). „Зорка” была вядомая ва ўсёй Польшчы, а ігралі мы беларускія, рускія і ўкраінскія песні. На тысячы канцэртаў на захадзе краіны мо два ці тры разы здарыліся непаразуменні паміж мною і публікай. Былі таксама інцыдэнты, але на Падляшшы. Напрыклад, у 2013 годзе ігралі мы вяселле за Ежэвам і калі зайгралі ўкраінскую „Смэрэку”, дык нас амаль не пабілі!

**— Чаму „Зорка” пайшла ў напрамку ўкраінскай музыкі?**

— Паводле мяне няма лепшай музыкі ад украінскай. Украінцы ўнаследавалі ад сваіх продкаў вялікую традыцыю спявання ды моцнага зацікаўлення музыкай. Мне вельмі падабаецца ўкраінскі фальклор, калектывы. Таму „Зорка” пазней пайшла ў напрамку ўкраінскай і рускай музыкі. Найбольш люблю слухаць народныя ўкраінскія песні ў выкананні фальклорных калектываў з Украіны.

**— А як украінцы ўспрымаюць Вашы песні? „Зорка” іграла імпрэзы на Украіне?**

— Вельмі пазітыўна. Зараз ва ўмовах каранавіруса іграем многа ўкраінскіх вяселляў. У Польшчу за працай прыехала вельмі многа ўкраінцаў і мне вельмі часта здараецца іграць польска-ўкраінскія вяселлі. У мінулым годзе мы ігралі сем такіх вяселляў. Украінцы з самой Украіны вельмі захоплены не толькі выкананнем украінскіх песень, але і самым спосабам вядзення вяселля. Яны часта мне казалі, што калі б мы ігралі на Украіне, дык мы зрабілі б яшчэ большую кар’еру, чым у Польшчы. Але я не іграю на Украіне, таму што там за вяселлі плацяць слабыя ганарары.

**— А на Беларусі Вы давалі канцэрты?**

— Не. Мы вельмі хацелі іграць на Беларусі, але ў нас было столькі ігрння, што нават калі былі нейкія прапановы, дык мы адмаўляліся. Проста ў нас не было часу.

**— А ў Бельгіі?**

— У Бельгіі мы ігралі два разы. Там было супер. Бельгія затрымалася на 2000-х гадах. Калі іграеш новыя песні, дык яны іх не ведаюць, толькі просяць іграць старыя песні 1990-х гадоў. Тыя нашы эмігранты, што здаўна сядзяць у Бельгіі, настаўлены на старыя песні.

**— Калісьці „Зорка” часта іграла забавы ў Малінніках...**

— Гэта былі вельмі файныя часы. Людзі прыязджалі ў Маліннікі, каб пагуляць, але таксама і пабіцца — вядома як то бывала на вясковых забавах. Для нас не было вялікай розніцы ці іграць вялікі канцэрт для шматтысячнай публікі, ці паехаць у Маліннікі і зайграць на забаве для сваіх людзей. Справа ў тым, што для нас найважнейшымі не былі грошы, але добры падыход да нас. Вядома, што калі іграе „Зорка”, то больш людзей прыедзе на забаву. Іграючы ў Малінніках мы яшчэ адпачывалі.

**— Ці гурт „Зорка” ў сучасны момант каранавіруса іграе вяселлі і канцэрты?**

— Іграем ад часу да часу. З аднаго боку людзі баяцца хадзіць на вяселлі, з другога — маладая пара таксама перажывае стрэс. Людзі іх пужаюць, што калі зробяць вяселле, то будуць сядзець на каранціне. Успыхнула міжнародная паніка і ўсе калектывы, тамады, вядучыя і ўвогуле цэлы музычны рынак стаіць на месцы. Мы ўсе не ведаем, калі гэта ўсё скончыцца.

**— З „Зоркай” іграла многа музыкаў. А хто зараз выступае ў яе складзе?**

— Зараз я пастанавіў мець сталы склад. Цяпер іграю з ды-джэем і ёсць Матэвуш Харкевіч з Гайнаўкі. Разам з намі выступаюць таксама дзве дзяўчаты, якія на сцэне робяць танцавальнае шоў. Не скрываю, што датычна „Зоркі” маю сур’ёзныя планы. У мяне зараз многа энергіі і яшчэ хачу намяшаць у музыцы.

**— Тады жадаю поспехаў!**

Размаўляў
**Юрка БУЙНЮК**



# Юбілейная Гасцёўня на пляжы

Дваццаты раз прайшоў традыцыйны народны беларускі фэст „Бандароўская гасцёўня" (8 жніўня). Ладзілі яго раней непадалёк берага Семяноўскага вадасховішча, у бандароўскім «амфітэатры» перад блёкамі Аседля Бандары актывісты вёсак Бандары, Рыбакі і наваколля, на Падляшшы, у Міхалоўскай гміне, разам з Беларускім грамадска-культурным таварыствам, пры падмацоўцы перш за ўсё Міністэрства ўнутраных спраў і адміністрацыі, Гміннага цэнтра культуры ў Міхалове, пажарнікаў і тутэйшых спонсараў. Фэст у Бандарах з'яўляўся працягам беларускіх фэстаў, якія ад больш за шэсць дзясяткаў гадоў збіралі шматлюдную публіку тутэйшую і «зарэчанскую». У час пандэміі заразы і абмежаванняў арганізатары перанеслі спознены фэст у былую Рудню — на пляж за Гарбарамі — туды, дзе стаялі гэтыя затопленыя возерам незабыўныя вёскі. Ад Аседля Бандары, куды, між іншым, перасялілі былі жыхароў знішчожаных вадасховішчам вёсак і хутароў, будзе туды каля двух кіламетраў. На ранейшых мерапрыемствах старэнькія ўжо «ўтопленікі» слухалі і глядзелі выступленні з лавачак пад блёкамі ды проста з акон, а тут не кожны зайшоў на пляж паміж соснамі. А і лавачак там не было. А пасля ж была патанцоўка — а ім ужо і не так да танцаў. Калісь расказваў Віктар Бура з Рыбакоў, адзін з задумшчыкаў фэсту: «Гэтае беларускае свята ладзіцца перш за ўсё для людзей, якіх перасялілі ў Бандары з пяці вёсак, якія былі затоплены падчас будовы Семяноўскага вадасховішча. У гэтым ліку — і мая асоба. Я прыходзіў сюды, сустракаўся з людзьмі. І вырашылі штосьці рабіць, каб людзі не сумавалі. І вось пачаліся тут спевы, беларускі фэст. Людзі прыязджалі, ішлі на возера і дзівіліся на тыя месцы, дзе зараз бушуе вада, успаміналі свае хаткі, свае паселішчы». Гулялі як маглі. А тут так атрымалася, што ў адзін дзень і амаль увесь час у адным месцы прайшлі два беларускія мерапрыемствы — «Праект Рудня» (7-8.08.) і «Бандароўская гасцёўня» (8.08.). Усё ж, «немабільныя» мясцовыя жыхары не ўсюды далі рады дабрацца і поўнасцю пакарыстацца прапановай. Хаця... дзякуючы гукаўзмацняльнікам музыка была чутна далёка па возеры.

— Калісь, калі запявалі лучане ці гарбароўцы, па Нарве нёсся спеў аж да Цісоўкі, — успомніла жыхарка Лукі, якая ў час высялення была маладой дзяўчынай, — па лугах, па вадзе. Цяпер краявід моцна змяніўся. Нядаўна ад Рудні, ад памятнага крыжа, было відаць пляж. Цяпер паміж дарогай выгнала высокія сосны. Поўна паміж імі машын, панаехала людзей, расставілі смажаніну, усюды дыміцца, парасклалалі пледы, гуляюць цэлымі сем'ямі. Пэўна, для іх, для турыстаў гэты фэст.

Сапраўды, «Бандароўская гасцёўня» больш для наехаўшых турыстаў, што і пацвердзіў Юрка Астапчук, намеснік дырэктара Міхалоўскага цэнтра культуры, славуты «Прымак».

— Думаю, што тут сёння больш людзей, чым бывала раней, хаця няма знакамітых калектываў з Беларусі — не маглі яны перасячы мяжу з-за каранавіруса. Адкрыў імпрэзу наш бургамістр Міхалова і Янка Сычэўскі, шэф Беларускага таварыства. Тут гледачы не толькі з Міхалоўскай гміны. Турысты, якія тут адпачываюць, могуць пачуць нашу беларускую песню. Важнае кожнае мерапрыемства, якое падтрымлівае беларускую культуру. Мусім іх арганізаваць, бо калі не будзем гэтага рабіць на кожным кроку, наша культура прападзе. Мы тут арганізуем сёння два мерапрыемствы. Апрача „Бандароўскай гасцёўні" будзе патанцоўка на пляжы ў Рудні. Адказны за гасцёўню Янка Сычэўскі з Беларускім таварыствам, а за гулянне позна ўвечары — мы як Гмінны асяродак культуры ў Міхалове. У той частцы выступяць «Чырвоныя шпількі» і «Прымакі» з Міхалова. Цешыць нас, што ёсць шмат людзей, што можам разам супольна пагуляць. Запрашаем часцей да нас адпачыць і пагуляць.

З ліку майстроў-рукадзельніц, якіх многа паяўлялася на «Бандароўскай гасцёўні», рэй вяла Галіна Бірыцкая з Плянты Нараўчанскай гміны, якая сама вядзе самаход поўны народных вырабаў па ўласных праектах. Яна авалодала і сучаснай тэхнікай — адразу на фейсбуку на профілі бабулі паявіліся здымкі з імпрэзы, што выклікала захапленне публікі і наладзіла ёй новыя творчыя і гандлёвыя кантакты. Бо ж не кожны глядач і слухач на пляжы меў пры сабе кашалёк :-). Крыху шчырай публікі было і пры століку з літаратурай — з «Нівай», кніжкамі Міры Лукшы і беларускім календаром. Найдаўжэй стаяў і дыскутаваў пра гісторыю і вершы навакольных паэтаў дзядзька Уладзімір Гаўрыловіч з Лявоневіч (па-вясковаму іх называлі Міхалкі, бо Міхась быў у іх дзед), які дабраўся на фэст пешшу. Шмат што ён з гэтага чытаў у «Ніве», памятаючы артыкулы ў ёй яшчэ пра нашаніўскую пару. Паўспамінаў пра прашчура свайго Міхалку, які як жаўнер царская войска вызваляў Балгарыю ад басурманаў. Досыць доўга разважаў дзядзька пра тутэйшыя справы, а пасля доўга стаяў перад агароджанай пляцоўкай для публікі (мусілі там усе праверыць тэмпературу і надзець маскі) ды слухаў спеваў. А сярод зацікаўленых гістарычнай тэматыкай быў таксама Янка Лукша, які 18 гадоў быў дырэктарам школы ў Міхалове і вярнуў туды беларускую мову.

— Наша школа супрацоўнічала з польскай школай у Ваўкавыску, ездзілі мы ў госці адны да адных. Дырэктарка тамашняй школы дапыталася ў мяне: «А нашто вам тая беларуская мова? І ў нас яна непатрэбная». Я вельмі ганаруся тым, што так многа нашай моладзі прымае ўдзел у літаратурным беларускім конкурсе «Дэбют», арганізаваным «Нівай», і шмат у нас лаўрэатаў. Справа не ва ўзнагародзе, якую можа атрымаць удзельнік конкурсу, а ў тым, што адважыўся выказаць свае пачуцці па-беларуску. Іхнія тэксты друкуюцца ў «Ніве», а гэта на хвалу і школы, і вёскі, і Міхалоўскай гміны.

Беларускімі спевамі і творчасцю цікавіўся, між іншым, байкер з Варшавы Пятро. Прызнаўся да таго, што ў яго праваслаўная бабуля, Марыя Іванаўна, і ўмела яна вышываць, гафтаваць і вязаць кручком можа і не горш ад спадарыні Галі. Яго дзед меў у Варшаве перад вайной будаўнічую фірму, і вельмі падтрымліваў жончыну цягу да прыгажосці. Бабуліны вышыўкі захаваліся нават праз вайну:

— Гэтыя цудоўныя ўмеласці трэба перадаваць, культываваць. А тут краіна, дзе мы ўсе вымешаныя, пародненыя, і гэта наш козыр, бо з кожнага народа і веры трэба браць самае лепшае. Мы на матацыклах наведалі з сябрамі Падляшша, бо тут раней ніколі не быў. І такая імпрэза, як «Бандароўская гасцёўня», з беларускімі песнямі і вырабамі, вельмі прыцягвае.... А як там у Беларусі? Такі зрыў...

У мастацкай частцы перад патанцоўкай да змяркання спявалі Ізабела Карчэўская з ГДК у Гайнаўцы (кіраўнік Марта Грэдаль-Іванюк), сямейны калектыў «Трыяда» з Макаўкі (кіраўнік Ганна Пятроўская), Марыся Савіцкая з ГДК, «Малое ГДК», «Белыя Крылы» з Міхалова (Адрыян і Чарак Данілюкі і Оля Яроцкая) — вучні Юркі Астапчука, «Лайлад» з Беластока (з салісткай, сярэдняй дачкой Багдана Астапчука) ды «Світанак» пад кіраўніцтвам Віты Кацюбайлы. Ой, як нёсся голас дзяўчат гэтага цудоўнага гурта — напэўна яго чулі аж у Цісоўцы! За возерам, за лесам.

**Міра ЛУКША**

# Трыццаць пятае свята ў амфітэатры

Памятаюцца Святы беларускай культуры, якія праводзіліся ў амфітэатры каля царквы св. Марыі Магдаліны ў Беластоку. Цяпер на гэтым узгорку вырас гмах Падляшскай оперы і філармоніі — Еўрапейскага цэнтра культуры, а прыбудавалі да яго летнюю сцэну — мураваны амфітэатр. Не толькі беларусы сумуюць сёлета па пленэрных імпрэзах, збіраючых слухачоў і гледачоў са сталіцы Падляшша рознай нацыянальнасці. З-за пандэміі да гэтага часу нельга было іх арганізаваць. У жніўні, пры вялікай асцярожнасці (маскі, дэзінфекцыя рук і дыстанцыя паміж наведвальнікамі), можна сабраць на мерапрыемстве палову магчымых гледачоў. І на свяце ў Беластоку, на якім чакаюцца выканаўцы, майстры і афіцыйныя асобы з Гарадзеншчыны, не змаглі выступіць артысты з Беларусі. Так што гімн «Люблю наш край» на завяршэнне канцэрта заспявалі ўстаўшы толькі гледачы і мастакі з Беласточчыны. Майстроў прадстаўляла нястомная рукадзельніца і паэтэса з Плянты Галіна Бірыцкая, беларускіх аўтараў — адна Міра Лукша пры падтрымцы рэдактаркі «Праваслаўнага агляду» Дароты Высоцкай, у якой можна было набыць цікавыя кнігі на тэму праваслаўя і нашай гісторыі, выдадзеныя Фондам Канстанціна Астрожскага. Праверыўшы сваю тэмпературу і падпісаўшы заявы пра магчымы кантакт з хворымі на каранавірус, гледачы заходзілі ў будыніну з адкрытым дахам, дзе на першых сядзеннях убачылі ўлады Беластока і самаўрадаўцаў, між іншым, праваслаўных і беларусаў, ды прадстаўнікоў Беларускага грамадска-культурнага таварыства, якое дзясяткі гадоў з'яўляецца арганізатарам, між іншым, гэтага свята беларускай культуры, сёлета, 9 жніўня, дзякуючы датацыі Міністра ўнутраных спраў і адміністрацыі РП і падмацоўцы Культурнага цэнтра Беларусі ў Польшчы.



Фестываль сабраў шаснаццаць творчых калектываў і выканаўцаў з Беластока, Гайнаўкі, Гарадка, Сямятыч, Міхалова, Макаўкі, Машчоны-Каралеўскай, Залук. Можна сказаць, што гэта быў міні-агляд фестывалю беларускай песні. Аб тым, як чаканым было новае прагучанне роднай песні, маглі сведчыць слёзы ў вачах слухачоў. Аляксандр Бялюсь, калега са школы ў Вераб'ях Тамары Болдак-Яноўскай, спачатку, расказаўшы сваю біяграфію пісьменніцам, выбег спаміж калон амфітэатра, а з яго вачэй слёзы сыпаліся як гарох у час, калі калектыў «Аморфас» спяваў песню «Малая айчына» (словы Міры Лукшы, музыка Алены Шчыгол): «Якая прыгожа песня! За сэрца хапае! Як трапна напісана! Тое і чую! І музыка гожая! Новая! Павінны пускаць яе часцей па радыё, у Рацыі і беластоцкім».

А спяваліся і новыя песні, і старадаўнія, якіх словы ведаюць усе слухачы. І ў бадзёрым, эстрадным выкананні, як гурта «Немальная прапанова», і «Лайланда» Багдана Астапчука з сярэдняй дачкой, салісткай, і «Аса» Славіка Трафімюка, «Прымакоў» з Міхалова Юркі Астачука, і самавітага «сукеніра» Андрэя Жамойды і Янкі Хохі. У народных строях выйшлі сямейны калектыў «Трыяда» Ганны Пятроўскай з Макаўкі — сясцёр Садоўскіх, унучак і праўнучак Даманёў з Плянтаў. Грымнуў хор «Крыніца» з Беластока (дырыжор Гражына Валкавыцкая) і яго пасынак «Мікрон» (кіруе ім Віктар Маланчык). Засвяціла сваімі калінавымі фартушкамі залучанская «Каліна» Віктара Леанкевіча, прыгажосцю і талентам запалалі на сцэне дзяўчаты з беластоцкага «Світанку» (кіраўнік Віта Кацюбайла), «Чырвоныя шпількі» з Міхалова (кіраўнік акушэрка Магда Юрчук), «Навіна» з Машчонай-Каралеўскай з Галенай Датчук, ну і хаця невялікі сёння «Расспяваны Гарадок». І Марыся Савіцкая з Гайнаўскага дома культуры з сучасным гучным дзявочым голасам. Чырвань і бель, як кроў з малаком! Перш за ўсё квяцістыя дзяўчаты і жанчыны, якія пяюць славу айчыне і роду. На пачатку «Мой беластоцкі край» на словы Алеся Барскага, які ў сваіх вершах узнёс славу айчыне і жанчыне.

— Наша свята заўсёды збірала тысячы аматараў беларускай песні, — прыгадаў перад канцэртам намеснік старшыні ГП БГКТ Васіль Сегень. — Нас яднае слова і месца.

— Наш граёк іграе з намі даўно, — кажа Галена Датчук пра гарманіста «Навіны» — васілька сярод каласкоў. — Дзесьці ад 2010 года.

— Аляксандр Іванавіч Пура, — прадстаўляецца ён.

— Ён з Драгічынскае парафіі, з Драгічынскае гміны. Прыязджае на рэпетыцыі не толькі да нас. Кажа, што ў нас адчувае сябе як у роднай сям'і. У іх усё гавораць на польскай мове, а ў нас чуе родную. Наш Аляксандр з мясцовасці Наройкі.

— Валодзя Петрук — мой калега. Я іграю яшчэ, між іншым, для польскамоўнай «Каліны» з Журобіц.

— А ўсім мы вам жадаем здароўя! Няхай песня прагоніць таго, ведаем каго і тое, ведаем што!

Тэкст і фота **Міры ЛУКШЫ**

# Трагедыя Райска і іншыя жахі

У «Ніве» ад 28.06.2020 года быў надрукаваны добры, як усе іншыя тэксты Аляксандра Вярбіцкага, артыкул «Райск, справядлівасць і памяць». Недахопам з'яўляецца паўтарэнне непраўдзівай інфармацыі пра прычыну пацыфікацыі Райска гітлераўцамі. Я таксама, прачытаўшы ў дзяцінстве, што прычынай пацыфікацыі быў абстрэл вайсковай нямецкай машыны савецкімі партызанамі, паверыў у гэта. Але пераважна так ёсць, што тое, што лічыцца абсалютнай праўдай, патрабуе праверкі. Гэта пацвердзілася і ў справе прычыны пацыфікацыі вёскі Райск, і ў многіх іншых справах.

Я меў нагоду гаварыць пра пацыфікацыю Райска з дзвюма жанчынамі, якія перажылі жудасныя падзеі 1942 года ў гэтай вёсцы. Ім было тады каля дзесяці гадоў, так што ўсё добра помняць. У час пацыфікацыі жылі яны ў Райску. Цяпер яны пражываюць у Мілейчычах Сямятыцкага павета. Гэта Сафія В. і Тамара П.

Аказваецца, што прычынай няшчасця жыхароў Райска быў абстрэл самахода і забойства 2 цывільных мужчын-немцаў і раненне 2 цывільных жанчын-нямкінь. Людзі гэтыя займаліся раз'язным гандлем.

Забойства 149 невінаватых беларусаў у Райску — гэта зверства і генацыд, праведзеныя паводле правіла калектыўнай адказнасці. Але хто быў прычынай гэтага няшчасця? Так званыя «партызаны» з-пад знаку крамлёўскай зоркі. Яны замардавалі тых цывільных, ні чаму невінаватых немцаў, ведаючы пра гітлераўскі закон аб калектыўнай адказнасці.

Гітлераўцы, пасля заняцця акупаванай тэрыторыі, вывешвалі абвесткі на некалькіх мовах пра тое, што за забойства аднаго немца будзе расстраляных некалькі мясцовых жыхароў з найбліжэйшых мясцовасцей.

Выкарыстоўвалі гэта кіраваныя з Крамля «партызаны» (але не толькі тыя), каб рукамі гітлераўцаў зменшваць лік беларускага насельніцтва і разбуджваць нянавісць да немцаў. Такая тактыка правакацыі гітлераўскага акупанта шырока прымянялася на ўсёй беларускай этнічнай тэрыторыі.

Савецка-крамлёўскі апарат рэпрэсіі так сама прымяняў калектыўную адказнасць увесь час: вывозілі ў канцлагеры ГУЛАГа невінаватых людзей (бо, напрыклад, у іх былі дзве каровы і конь), з цэлымі сем'ямі, з малымі дзяцьмі — на смерць ад голаду і холаду. Саветы праводзілі генацыд — арганізавалі голад, забіраючы «да чыста» збожжа, бульбу і ўсе харчы ва Украіне і паўднёвай Беларусі ў 1921-1923, 1932-1933, 1946-1947 гадах. Ад голаду тады памерла каля трох мільёнаў людзей.

У суседняй ад мае Рудні вёсцы Боўтрыкі савецкія акупанты ў 1939 годзе вывезлі сям'ю гаёвага — тутэйшага беларуса. Ніхто з тае сям'і не вярнуўся. У Курапатах пад Менскам («Мінск» гэта маскоўская назва) у час эксгумацыі, якую праводзіў Зянон Пазьняк у 1988 годзе, быў знойдзены між іншым абутак, у тым гумавыя боты выраблены ў Польшчы. Мне падумалася, што можа ў Курапатах загінуў і гаёвы з Боўтрык, бо гумавыя боты гэта вельмі выгодны абутак у лесе. НКВД расстраляла ў адных толькі Курапатах каля 200 тысяч людзей.

Былі выпадкі, што крамлёўскія «партызаны» пераапраналіся за гітлераўцаў або паліцаяў і праводзілі знішчэнне беларускіх вёсак з насельніцтвам. Улюбёным «геройствам» крамлёўскіх «партызанаў» (глядзець у кніжцы «Лёс аднаго пакалення», выдадзенай «Нівай» у 1996 годзе), але таксама і польскіх узброеных груповак, было забіванне настаўнікаў беларускае мовы (напрыклад, Аляксандра Валкавыцкага ў Нараўцы ў 1945 годзе) і солтысаў.

Аб забранні Аляксандра Валкавыцкага на расстрэл падуладнымі «Лупашкі» з урокаў у школе ў Нараўцы расказваў мне ў 1968 годзе былы вучань, прысутны тады ў 1945 годзе на ўроках Грыша Т., называны ў Рудні *градлянскім*, бо з вёскі *Гарадзіска* (па-польску Grodzisk) каля Нараўкі. Настаўніка спярша білі ў класе пры дзецях.

Беларусы мелі магчымасць параўнаць гітлераўскае зверства, генацыд з генацыдам і зверствамі кіраванымі з Крамля (Курапаты і іншыя месцы бальшавіцкага генацыду).

Гітлераўцы бралі прыклад з ленінска-сталінскага тэрарызму, напрыклад пры арганізацыі канцэнтрацыйных лагераў, якія ў Стране Саветаў (паводле песні «*где так вольно дышит человек*») называліся ГУЛАГамі. Напісаў аб іх Аляксандр Салжаніцын у кніжцы «Архіпелаг ГУЛАГ».

Гітлераўскі тэрор у час вайны паглынуў менш ахвяр, чым даваенны, ваенны і пасляваенны сталінскі тэрор. Доказам таму з'яўляецца, між іншым, пастанова Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі ад лютага 1945 года *аб перавыхаванні грамадства ў духу савецкага патрыятызму і нянавісці да нямецкіх акупантаў*. Гітлераўцаў не было ў Беларусі ўжо ад ліпеня 1944 года. Значыць, трэба было прымяняць адвечны крамлёўскі механізм — хлуслівую прапаганду, так як пра «русский мир». Інфармацыя аб гэтым змешчана на 158 старонцы вельмі добрай кніжкі св. пам. Юркі Туронка «Беларусь пад нямецкай акупацыяй».

Гітлераўцаў асудзілі па вайне ў Нюрнбергскім працэсе, а крывавэрных Леніна, Сталіна і іх памочнікаў пакуль не асудзілі. Але трэба, каб міжнародны суд асудзіў учынкі крывавэрных усякае масці, бо злачынствы генацыду не падлягае тэрміну даўнасці.

У 1946 годзе былі выселены вёскі

чытайце 11



Беларусь зараз перажывае цяжкія часы. Цемрашальства дзеючага правіцеля, які чапляецца за сваю нічым не абмежаваную ўладу, паступова пераходзіць усе межы — ён ужо дайшоў да таго, што прапануе людзям выбачыць тых карнікаў, якія пазабівалі мірных пратэстоўцаў. На гэтым тле адключэнне інтэрнэту ў першыя паслявыбарныя дні, зразумела, ёсць дробязю. Але і ў такіх дробязях ужо намеціліся сур'ёзныя наступствы.

Пачуць як прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка тлумачыць знікненне інтэрнэту ў Беларусі мне давялося па радыё, якое ўстаноўлена ў камеры ізалятара часовага ўтрымання, куды мяне яшчэ напярэдадні выбараў памясцілі як адміністрацыйна арыштаванага. Словы правіцеля перадала 10 жніўня радыёстанцыя „Мір”. Паводле Лукашэнкі, інтэрнэт беларусам адключылі нейкія замежныя сілы, якія вядуць супраць Беларусі гібрыдную вайну. Праўда, нічога, акрамя горкай усмешкі гэтыя прэзідэнцкія словы не выклікалі, бо такое тлумачэнне ніяк не вязалася з рэальнасцю, дзе інтэрнэтам у беларускай краіне кіруе адзін адзіны правайдар — Белтэлекам, які цалкам падпарадкаваны ў сваіх, нават незаконных, дзеяннях менавіта лукашэнкаўскай уладзе, і ніякія замежнікі не ў стане перашкодзіць яму забяспечваць ці не забяспечваць інтэрнэт па ўсёй Беларусі.

Знікненне інтэрнэту не прайшло бяследна для ІТ-кампаній, якія лічацца ледзьве не самым перадавым атрадам беларускай эканомікі. Многія з іх працуюць на аўтсорсінгу, то-бок прадастаўляючы паслугі сваім кліентам дыстанцыйна. А паколькі адсутнасць інтэрнэту зрабіла немагчымым ІТ-кампаніям выконваць узятыя на сябе абавязкі, то, зразумела, яны панеслі немалыя страты. Паўтарэння такога яны ўжо не хочуць і многія з іх узяліся за перавод сваіх офісаў з Беларусі ў іншыя краіны. На канец жніўня было вядома, што 12 ІТ-кампаній знаходзяцца ў тракце поўнага рэлакейту, яшчэ 59 — у тракце часовага, і яшчэ 112 кампаній пачалі шукаць магчымасці перавезці супрацоўнікаў у іншыя краіны. Усё такая, прычым далёка не поўная, цана лукашэнкаўскага імкнення да ўлады для беларускай эканомікі і беларускага народа.

На дадзены момант невядома, ці плануе перамяшчэнне свайго бізнесу прыязная да беларускай мовы ІТ-кампанія, якая называе сябе адным з вядучых пастаўшчыкоў воблачных рашэнняў, ІТ-інфраструктуры і хостынгу для больш як 50 тысяч кліентаў у краінах Усходняй Еўропы і СНД, ActiveCloud. На яе сайце, што месціцца па адрасе **https://by.activecloud.by/** няма ніякіх паведамленняў на гэты конт. Разам з тым можна меркаваць, што справы ў кампаніі пайшлі не надта добра з другой паловы лета, бо апошняя навіна на асноўнай мове кампаніі — рускай — датуецца 21 ліпенем.

Распавядаць пра дасягненні ActiveCloud было б не зусім правільна, бо такі расповед можна расцаніць як рэкламу. Разам з тым варта адзначыць, што яе сайт мае, акрамя рускай, таксама беларускую і англійскую моўныя версіі.

Пачаткам дзейнасці фірмы, згодна інфармацыі ў рубрыцы „Пра кампанію”, быў 2003 год. То-бок, яна ўжо 17 гадоў на ІТ-рынку. На сённяшні дзень ActiveCloud займаецца прадастаўленнем „воблачнай” інфраструктуры для размяшчэння карпаратыўных сістэм, дадаткаў і сайтаў; аказанне паслуг па аўдыце і міграцыі ў „воблака”, інфармацыйнай бяспецы, праектаванні і тэхнічным суправаджэнні „воблачных” рашэнняў. Штат ActiveCloud налічвае больш за 120 супрацоўнікаў.

Аляксандр ЯКІМЮК



Дата з Календара

## 120 гадоў з дня нараджэння
# Сымона Баранавых

Беларускі празаік, дзіцячы пісьменнік Сымон Баранавых нарадзіўся 1 верасня 1900 г. у вёсцы Рудкова Ігуменскага павета (цяпер Уздзенскі раён). Паходзіў з сялянскай сям'і. Пачаткова прозвішча было Баран, потым Баранаў, а ўрэшце трансфармавалася ў Баранавых. Да змены прозвішча спрычыніўся сябра Ян Скрыган, дасціпны пісьменнік. Юнаком Сымон парабкаваў у багатых гаспадароў. У 1920-1923 гг. служыў у Чырвонай Арміі, прымаў удзел у баях. Пасля дэмабілізацыі ў 1924-1925 гг. — старшыня сельсавета, загадчык хаты-чытальні, адначасна карэспандэнт беларускіх газет. У 1925-1928 гг. вучыўся ў Мінску на рабфаку. Паэт Мікола Хведаровіч, які таксама вучыўся на рабфаку, успамінаў: „Як сёння, бачу Сымона Баранавых у паліняла́й гімнасцёрцы, на якой яшчэ не паспелі выцвісці чырвонаармейскія пятліцы, у доўгім кавалерыйскім шынялі, які ён надзяваў пры любым надвор'і”.

Сымон Баранавых уваходзіў у літаратурныя аб'яднанні „Маладняк” (з 1927) і БелАПП (з 1928). У 1931 г. скончыў літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне педагагічнага факультэта БДУ. Разам з ім вучыліся Кандрат Крапіва, Анатоль Вольны, Пятрусь Броўка, Пятро Глебка, Ян Скрыган, Кузьма Чорны, Максім Лужанін, Сяргей Дарожны, Алесь Дудар, Алесь Звонак і іншыя вядомыя літаратары таго часу. Працаваў у Беларускім радыёцэнтры, затым адказным сакратаром часопіса „Беларусь калгасная”, пасля ў бібліятэцы Дома пісьменніка. Шчыльна сябраваў з Янкам Купалам.

Выступаў у друку спачатку з публікацыямі як сельскі карэспандэнт. Асноўная тэма яго творчасці — беларуская вёска і сацыяльныя працэсы, якія адбываліся там у 1920-1930-я гады. У 1927 г. апублікаваў першае апавяданне „У млыне” (газета „Чырвоная змена”). Аповесць „Межы” (1932) — адзін з першых у беларускай літаратуры буйных твораў пра сацыялістычную перабудову вёскі, карэнныя змены ў побыце і псіхалогіі сялянства. Цікава, што калі ў 1935 г. яго апавяданне „Прысады” надрукаваў віленскі часопіс „Калосьсе”, рэдакцыя напісала ў прадмове наступнае: „Хоць ідэолёгія калгаснага ладу, выражаная ў „Прысадах”, ёсьць нам чужая, друкуем тут гэты твор дзеля яго мастацкае вартасьці і пазнаямленьня чытача з даволі выдатным беларускім пісьменьнікам”. Асабліва папулярнай стала аповесць Баранавых для дзяцей „Пастка”.

Вось як успамінаў адзін з сучаснікаў пра літаратара: „Ага, вось выйшаў з Дому пісьменніка чалавек у белым вясеннім касцюме, з пухлай, трохі звіслай набок шчакой, бліснуў пры ўсмешцы залатым зубам, мне сказалі — гэта Сымон Баранавых, рэдактар часопіса „Беларусь калгасная”. Я прачытаў ужо ягоную аповесць „Чужая зямля”, і мне яна спадабалася. Я ўжо абагаўляю яго”. Насамрэч Баранавых працаваў тады адказным сакратаром часопіса. Па роўню таленту Баранавых ставілі ў адзін шэраг з Іванам Мележам, аднак яму не далі развіцца, пісьменнік стаў ахвярай уласнага захаплення саветамі. Баранавых пачалі кляйміць як ворага народу. Спярша яго ад арышту ўратаваў Янка Купала, але лёс пісьменніка ўжо быў прадвызначаны.

Сымона Баранавых арыштавалі ў лістападзе 1936 г. у Мінску, сядзеў у адной камеры з Цішкам Гартным і Масеем Сяднёвым. НКВД засудзіў яго як „члена контррэвалюцыйнай нацыянал-фашысцкай арганізацыі і за антысавецкую дзейнасць” да 10 гадоў савецкага канцлагера. Загінуў Баранавых на Калыме 10 лістапада 1942 года. Рэабілітаваны Прэзідыумам Вярхоўнага суда БССР у 1954 годзе.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

з ваколіц Ялоўкі (цяперашняя гміна Міхалова), якія пасля вайны апынуліся ў БССР. Ведаю пра гэта, бо мая цётка Надзя з вёскі Шымкі выйшла замуж перад 1938 годам за Сцяпана Лукшу ў Нізбодзічы за рэчку Свіслач. Жыхары гэтай вёскі былі «нагавараваны» НКВД да выезду да абслугі Беламорскага канала. Ніхто не хацеў выязджаць, пакуль аднае ночы не згарэла іх вёска. Не было выбару і жыхары вёскі «згадзіліся» на эвакуацыю. Яны жылі і працавалі на пятым шлюзе Беламорскага канала. Мы перапісваліся са сваякамі і я дагэтуль помню іх адрас: Карело-Финская Автономная Республика, Медвежьегорский район, почта Повенец, 5 шлюз. Цяпер, згодна з ідэалогіяй «русского мира», пра фінаў не гаворыцца — ёсць толькі Карэльская Рэспубліка ў РФ. Я быў у сваякоў пад канец 1970-х гадоў XX стагоддзя. Гаварыў таксама з іншымі беларусамі выселенымі з-над рэчкі Свіслач. Яны не страцілі свае роднае беларускае мовы. Гаварыў я таксама з мясцовымі фінамі. Яны ўважалі, што іх тэрыторыя — акупаваная Расіяй.

Трэба нам помніць аб усім гэтым і аб многіх іншых справах з гісторыі ў кантэксце сучаснасці. Бо «хто не ведае праўдзівай гісторыі, той губіцца ў будучыні», так як праваслаўная моладзь, якая пасля «адукацыі» на ўроках «праваслаўнай рэлігіі», ходзіць у дэманстрацыях „Bury — nasz bohater”.

**Жорж ЗЮЗЯ** з Рудні, Варшава

## Абочыны дарог у зарасніках

Пра дарогі неабходна безупынна клапаціцца. Найбольш пра тыя, на якіх вялікі рух аўтамашын і пешаходаў. Адным з такіх шляхоў з'яўляецца ваяводская дарога № 687 з Юшкавага Груда ў Навасады цераз Бандары, Новае Ляўкова і Нараўку. Найдаўжэйшы яе адрэзак вядзе цераз Нараўчанскую гміну Гайнаўскага павета.

На працягу пару апошніх гадоў зараслі абочыны дарогі і паабапал яе равы на адрэзку ад Нараўкі да Плянты. За гэты час вырaслі тут кусты вербалозу, алешын, ляшчыны, вязу, рабіны і ліпы. Сустрэнем таксама сасновыя ды пладаносныя дрэўцы, між іншым, яблынькі і слівы-мірабель. Пра абочыны дарогі павінна задбаць Падляшскае праўленне ваяводскіх дарог у Беластоку. Пра ўхабіны на маставой таксама. На гэтым адрэзку ваяводскага шляху іх удоваль.

**(яц)**

## Пакрысе пашыраю круг чытачоў

Беларускі штотыднёвік „Ніва” — адзіная такая газета ў Польшчы. Ён патрэбны беларусам, пражываючым у Польшчы. Мае ён сваіх пастаянных карэспандэнтаў і чытачоў. Але, як вядома, людзі паміраюць, то і лік чытачоў меншае. Трэба шукаць новых. 18 жніўня гэтага года наведаў я з экземплярамі „Нівы” № 33 ад 16 жніўня гэтага года дзесяць вёсак з беларускім насельніцтвам у Нараўчанскай гміне Гайнаўскага павета. Я быў яшчэ ў дарозе, калі ў тым дні альхоўскі ніўскі карэспандэнт Мікалай Варанецкі і пастаянная чытачка з Плянты Вера Клімюк паведамілі мне, што ў Альхоўцы памерла жанчына (яна раней спявала ў беларускім мастацкім калектыве „Нараўчанкі” ў Нараўцы), а ў вёсцы Плянта — 62-гадовы мужчына.

А вось у жніўні я маю ўжо пяць чытачоў „Нівы” у Новым Масеве і Старым Масеве, новую чытачку ў Заблотчыне ды новага чытача ў Падляўкове. Ёсць і іншыя новыя чытачы. У Семяноўцы „Ніву” чытаюць, між іншым, Ліля Тарасевіч, Янка Шыманюк, Слаўамір Кулеша, Галіна Панькоўская і солтыс Мікалай Кардаш ды працаўніцы тамашняга Асяродка экалагічнай адукацыі (іх пяць асоб).

Варта дадаць, што на пошце ў Нараўцы купілі ўсе 14 асобнікаў „Нівы” № 33 ад 16 жніўня гэтага года. 18 жніўня г.г. апошні з іх купіў Мікалай Варанецкі. Я даведаўся ў рэдакцыі, што будзе ў 34-м нумары беларускага тыднёвіка і расказаў майму шматгадоваму сябру Мікалаю з Альхоўкі. І ён, як пастаянны чытач, „Ніву” купіць. **(яц)**

## Персікі ў нас



На маладых пладаносных дрэўцах на панадворку Канстанціна Целушэцкага ў Новым Ляўкове Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета выраслі персікі. На галінах іх многа і яны смачныя. Калі так, то селянін будзе садзіць больш дрэўцаў з такой экзатычнай у нас садавінай. Як відаць, спроба аказалася ўдалай. Цеплалюбівыя дрэўцы і ў нашым клімаце прыняліся і пладаносяць.

**Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

## Яна любіць вышываць

Альжбета Кунцэвіч з Лешукоў Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета ў кожную вольную хвіліну любіць вышываць. Гафту вучыла яе маці і настаўніца на ўроках рукадзелля ў Пачатковай школе ў Старым Ляўкове. Спадарыня Альжбета прымае ўдзел у конкурсах на найпрыгажэйшы вышываны ручнік, макатку і сурвэту. Атрымала некалькі дыпломаў. Апошнім часам ткала габелены. Дзве яе працы „Мак” і „Адуванчыкі” зараз на выстаўцы габеленаў у галерэі імя Тамары Саланевіч у Нараўцы.

Альжбета Кунцэвіч удзельнічае ў культурным жыцці сваёй і суседняй вёскі. Калі не на працы ва ўстанове ў Семяноўцы, тады прысутнічае на кожным культурным мерапрыемстве ў Лешуках, Нараўцы і Старым Ляўкове. Шкадуе, што зараз мае менш часу, каб больш папрацаваць у мясцовым Таварыстве „Ятрышнік”. А цяпер маюць сваю новую святліцу. Нядаўна зрабілі вялікую выстаўку кухонных макатак. Знайшлі тры макаткі-унікумы з патрыятычнымі лозунгамі-заклікамі з часоў вайны. Выстаўку агледзелі шмат наведвальнікаў.

**Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**



## 06.09 — 12.09

**(22.03. — 20.04.)** З'яднаеш да сябе людзей, здабудзеш папулярнасць. Пільнуйся, бо падДаўшыся пры рашэннях эмоцыям, дойдзеш у нікуды. Да 09.09. рызыка і захапленне справамі нявартымі ўвагі. На працы вельмі напружаная сітуацыя, проста не вытрымаць. 10-14.09. адкрыюцца перад табой новыя магчымасці (і ў каханні, і на працы). Можаш закахацца, дамовіцца, што-небудзь выйграць. Прызнайся да слабасцей — гэта толькі расчуліць іншых.

**(21.04. — 21.05.)** 7-11.09. здабудзеш шмат у вачах супрацоўнікаў і кіраўніцтва. Прафесійныя амбіцыі пакуль схавай у кішэню. 10-14.09 —знакаміты настрой. Шчаслівыя сустрэчы рандэву, на працы максімальная занятасць. Умела аддзеліш зерне ад мякіны. 7-11.09. прыкрыя сюрпрызы ў падарожжы; несумленныя і дурныя людзі могуць цябе завалачы ў кабалу.

**(22.05. — 22.06.)** Будзеш прымаць кампліменты і словы адарацыі. Бяры ўдзел у сустрэчах, канферэнцыях, «бурах мазгоў». Веды, якія здабудзеш, развяжуць важную праблему. Можаш мець віднае дасягненне. Сімпатычныя адносіны з людзьмі, шчасце ў любові і фінансах, пачуццё здзяйснення мар. 7-11.09. акалічнасці могуць змусіць цябе да змены поглядаў і пазіцый.

**(23.06. — 23.07.)** Усё пойдзе па тваёй думцы. Адкрыеш новыя магчымасці. А ў пары новыя спосабы на партнёра. На некаторыя рэчы не будзеш мець уплыву. Не ўспрымай нічога лішне сур'ёзна; трымайся да ўсяго што адбываецца лепш на дыстанцыі. Не блісне нічым асабліва, але абмінуць цябе буры.

**(24.07.—23.08.)** 7-11.09. заззяеш, будзеш прамаўляць публічна, павядзеш абучэнні. 9-13.09. не праваронь пэўных фактаў. У абдымках раманаў. Пазбудзешся турбот і глянеш на свет з усмешкай. Варта зрабіць планы на наступныя тыдні. Правер сваю шчыльнасць. Будзеш засяроджаны таксама на справах іншых людзей.

**(24.08. — 23.09.)** Варта цяпер даць з сябе ўсё, бо ўсе твае задумы знойдуць прызнанне. Абавязкова пазбягай канфліктаў з блізкімі. У пачуццях шанцам інтэрнэт. На працы нічога лішне не абяцай. Але смела падымі папярочку і рэалізуй мары. Рост актыўнасці, энергія, вытрымка, так што не бойся магчымых параз.

**(24.09. — 23.10.)** Твая лішняя пільнасць можа камусь падзейнічаць на нервы. Пільнуйся ад неабдуманых інвестыцый. 6, 7 верасня магчымыя небяспекі. Увесь месяц поўны творчай актыўнасці. Твае задумы спадабаюцца і дадуць прыбытак. Вяночак прыхільнікаў вакол цябе. Запішыся на нейкія курсы, бо аж да канца месяца добра ў навучанні. І прыхарашыся.

**(24.10. — 22.11.)** Справы часам безнадзейныя пачнуць укладвацца. Але будзеш мець аслабленую пранікнёнасць. Твая падазронасць пагражае любові. 7-9.09. час спрыяе публічным выступленням — не з'есць цябе хваляванне, ацэняць цябе дасканала. Не паступай неабдумана, хаця Зоркі выцягнуць цябе з клопатаў. Размовы з дзецьмі. На працы захавай спакой і дыстанцыю. Вельмі дбай аб сваю пячонку.

**(23.11. — 22.12.)** Выкарыстай нагоды для наладжвання рамантычных знаёмстваў. На працы прыйшоў час на змены. Хваля энтузіязму і вялікай энергіі. У любові прыдасца розум. На працы стабілізацыя, але шэф пагоніць цябе, крыху лянівага, да работы. 7-11.09. шукай працу, не глядзі на грошы, але на атмасферу ў фірме. Задбай аб псіхіку і добры настрой, старайся не стрэсавацца.

**(23.12. — 20.01.)** Твае высілкі прынясуць цудоўныя плён. Верасень поўны салодкіх здабыч! Пахвалы, прэміі, узнагароды. Будуць святкаванні ў сям'і. Умовы спрыяюць рэалізацыі планаў і дасягненню ўдач. Але трэба будзе схадзіць да лекара. Не вер у ратунак з інтэрнэту!

**(21.01. — 19.02.)** Кончыш раздзіраць старыя раны, пачнеш новы раздзел. Зароблены грошы з прыемнасцю выдасі. Многа будзе дзецца! Але мусіш сябе больш дысцыплінаваць. Будзеш здабываць веды, знаёміцца. Спакойна ў фінансах. Не купляй абы-чаго. Можаш панаракаць на суставы. Змяні свой імідж, можа, перафарбуйся.

**(20.02. — 21.03.)** Незалежна ад дробных ускладненняў, удасца аформіць табе самыя важны справы. Не параўноўвай на іншых, дасі сабе рады адзін. 9-13.09. не дзейнічай нерацыянальна і неадэкватна. Пры праблемах з кіраўніцтвам не падлівай алівы ў агонь. Твае задумы могуць быць адарваныя ад рэчаіснасці, дык не мей прэтэнзій, калі яны не спадабаюцца шэфу ці калегам. 9-13.09. могуць пасыпацца задумы, якія нават маюць рукі і ногі. Не слухай благіх дарадчыкаў, асабліва калі падбухторваюць цябе супраць шэфства. Затое паслухай парад дыетолагаў! Сам будзеш трымацца, затое можа прыхварэць сваяк ці твая жывёлка.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

## Адгаданка

1. Ноеў карабель, 2. спорт Вікторыі Азаранкі, 3. не азіміна, 4. падстаўка для прыбора, у якой... штат, 5. вучоны багаслоў, 6. звязаны пук жжатых сцёблаў збажыны, 7. галаўны конусападобны ўбор, 8. востры інструмент для сячэння, 9. тырытарыяльная адзінка ў даўняй Расіі парытэтная павету, 10. гродзенская рака, 11. установа з пракурорамі і адвакатамі, 12. залётнік, лавелас, 13. сеянне, 14. ежа, 15. антонім лухты.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — пагаворка.

**(ш)**



Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 32 нумара**
Сідней, вадарод, вярба, дух, морква, украінка, муха, Брузгі.
Рашэнне: **Не давярай худому кухару**.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.

**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 693 70 00 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00].

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 000 egz.

# Шматкультурны Венграў

Вярнуся ў Ліў — была раней мова, што каралева Бона, калі загадвала ліўскім замкам, загадала яго разбудаваць. А зрабіла гэта ў сілу ўзбуйнення сваёй прэстыжнасці, каб ейны замак быў бачны з недалёкага Венграва, які ў той час валодалі прадстаўнікі роду Радзівілаў. Бо Бона за Радзівіламі не надта прападала. Вядомыя яе непрыязныя адносіны да ейнай нявесткі Барбары з Радзівілаў, жонкі караля Жыгімонта Аўгуста; папулярная нават пагалоска, што старая каралева прычынілася да заўчаснай смерці Барбары.

Кім жа былі тыя Радзівілы? Энцыклапедыя Вялікага Княства Літоўскага: «Радзівілы — найбуйнейшы магнацкі род герба «Трубы» ў ВКЛ, прадстаўнікі якога ў 15-18 ст. займалі вышэйшыя дзяржаўныя, адміністрацыйныя і вайсковыя пасады; буйныя землеўладальнікі. Паходзяць з літоўскага баярства. Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай у канцы 18 — пачатку 20 стагоддзя ўваходзілі ў склад арыстакратыі Расіі, Прусіі і Аўстрыі, валодалі маёнткамі ў Францыі, Італіі. У сярэдзіне 16-1-й палове 18 стагоддзя Радзівілы займалі першае месца сярод магнатаў ВКЛ па эканамічным і палітычным значэнні. (...) У 16-18 стагоддзях Радзівілы мелі сваё войска са шляхты і ваенна-служылых людзей — зямян, выбранцаў, баяр і татараў, якія атрымлівалі за службу зямлю «навечна». Радзівілы мелі свае крэпасці — Нясвіж, Біржы, Кейданы, Мір, Любчу і іншыя — з гарнізонамі. У 1528 годзе ў маёнтках Радзівілаў налічвалася 18 240 дымоў, яны ставілі ў войска ВКЛ 939 коннікаў і 1586 пехацінцаў. (...) Войска Гераніма Фларыяна Радзівіла (1715-1760) налічвала 6 тысяч чалавек (столькі ж мела ўся армія ВКЛ). Радзівілы адыгрывалі значную ролю ў культурным і рэлігійным жыцці. У 16-17 стагоддзях частка з іх перайшла ў кальвінізм і кіравала пратэстанцкай супольнасцю краіны. (...) Род Радзівілаў быў у сваяцтве з арыстакратычнымі сем'ямі Еўропы, пануючымі дамамі Прусіі, Ангальта, Нойбурга, Курляндыі, Малдовы...».

А ў Венграў Радзівілы завіталі спачатку на непрацяглы час. У пачатку XVI стагоддзя Венграў атрымаў у якасці пасагу Януш Косцевіч; Энцыклапедыя ВКЛ: «маршалак дворны з 1510, ваявода віцебскі з 1514 і падляшскі з 1520, адначасова стараста дарагічынскі з 1522 і ковенскі з 1523, дзяржаўца радунскі, ожскі і пераломскі...». Пазней ягоная дачка Анна выйшла замуж за Яна Радзівіла, у свой час старасту бельскага з 1523 года. А іхняя дачка, таксама Анна, унесла ў пасагу Венграў Станіславу Кішку-Цеханоўскаму. А пазней, калі род Кішкаў-Цеханоўскіх выгас, большасць яго ўладанняў перайшла ва ўласнасць згаданага раней роду Радзівілаў...

У 1558 годзе жонка Станіслава Анна пераводзіць венграўскі каталіцкі касцёл у пратэстанцтва. Венграў становіцца адным з найбуйнейшых цэнтраў пратэстанцтва ў Рэчы Паспалітай. Пяць гадоў пазней горад прымае арыянскае аблічча, дзейнічае тут м.інш. Пётр з Ганёндза; Энцыклапедыя ВКЛ: «ідэолаг левай, сялянска-плебейскай плыні Рэфармацыі ў ВКЛ, належаў да антытрынітарыяў. (...) Адмаўляў царкоўна-тэалагічную і філасофскую схаластычную традыцыі. Выступаў супраць прыватнай уласнасці, сацыяльнай няроўнасці, войнаў, феадальнага права, свецкай улады, пакарання смерцю. Яго паслядоўнікі Якуб з Калінаўкі, Павел з Візны, М. Чаховіц».

Якуб з Калінаўкі (што паміж Кнышынам і Ганёндзам, памёр у 1583 годзе): «радыкальны сацыяльны мысліцель-утапіст, ідэолаг левай, плебейска-сялянскай плыні рэфамацыйнага руху на Беларусі. (...) Услед за Пятром з Ганязі (Ганёндза) абгрунтаваў ідэю сацыяльнай і нацыянальнай роўнасці і, спасылаючыся на Біблію, сцвярджаў, што Бог стварыў увесь род чалавечы з адной крыві, таму ўсе людзі браты і ніхто ні над кім не мае права панаваць: не можа быць сярод сапраўдных хрысціян розніцы паміж яўрэем і элінам, нявольнікам і вольным, але ж усе павінны быць роўныя. Крыніцай сацыяльнага зла лічыў прыватную ўласнасць, быў прыхільнікам ненасільнага пераўтварэння наяўнай сацыяльнай рэчаіснасці праз маральнае самаўдасканаленне чалавека, мірны байкот існуючых грамадскіх і дзяржаўных установаў».


Франтон Успенскага касцёла

Чарговы зямляк, Павел з Візны: «дзеяч Рэфармацыі ў ВКЛ другой паловы 16 стагоддзя; адзін з ідэолагаў радыкальнай левай плыні антытрынітарыяў (літоўскіх братоў), якія адмоўна ставіліся да існуючых дзяржаўных і грамадскіх інстытутаў, найперш да прыгонніцтва. Быў сярод тых, хто ў снежні 1565 на сінодзе літоўскіх і польскі братоў у Венграве (Падляшша) ухваляў сацыяльны радыкалізм мюнстэрскіх анабаптыстаў. (...) Павел з Візны сцвярджаў: я так разумею і так веру, што сапраўднаму хрысціяніну нельга мець падданых, а тым больш нявольнікаў і нявольніц, бо гэта паганства панаваць над сваім братам, карыстацца з яго поту і крыві».


Капліца на пратэстанцкіх могілках


Праваслаўны куточак выставы

У 1570 годзе Ян Кішка заснаваў у Венграве друкарню, дзе друкаваліся творы дзеючага там Пятра з Ганёндза. У 1584 годзе ў Венграве адбываецца чарговы сінод, на якім прысутнічаў італьянскі рэлігійны рэфарматар Фаўст Соцын: «адхіляў догматы Святой Тройцы, першароднага граху і збавення. Хрыста лічыў не Богам, а асаблівым чалавекам, які не выкупляў сваёй пакутніцкай смерцю людскіх грахоў, а адкрыў людзям шлях да вечнага жыцця (і таму яму трэба пакланяцца як Богу), і гэта дасяжна кожнаму, хто будзе браць з яго прыклад. Гэтым самым Соцын перанёс увагу са справу веры на ўчынкі чалавека і яго этыку. (...) Паходзіў з радавітай сям'і, у дзяцінстве асірацеў, рэгулярнай адукацыі не атрымаў. Жыў у Ліёне, Цюрыху, дзе зацікавіўся новымі ідэямі і хутка стаў адным з лідараў радыкальнай Рэфармацыі. У 1562-74 жыў у Фларэнцыі, пасля ў Базелі, дзе заняўся біблейнымі перакладамі і тэалогіяй. У 1578 прыбыў у Трансільванію, у 1579 пераехаў у Польшчу, дзе і правёў рэшту жыцця (у Кракаве і яго ваколіцах). У 1594 і 1598 каталіцкія фанатыкі рабілі замахі на жыццё Соцына, а яго рукапісы і кнігі былі публічна спалены...».

Пратэстанцтва ў Рэчы Паспалітай працвітала ў XVI стагоддзі; Зыгмунт Глогер: «У Літве Мікалай Радзівіл (Чорны) ваявода віленскі, стрый каралевы Барбары, спачатку верагодна лютаранін, пасля кальвін, стаў перад смерцю арыянінам (антытрынітарыем — А. В.). Іншыя разнавернікі на пінчаўскім зборы 1558 г. прызналі секту антытрынітарыяў бязбожнай і ератычнай. Літоўскія дысідэнты, з'ехаўшыся на свой сінод у Берасці, асудзілі таксама Пятра з Ганёндза, які прыбыў апосталіць арыянізм на тым сінодзе. Арыяне зноў жа на зборы ў Мордах на Падляшшы 1563 г. асудзілі ўсіх разнавернікаў, веруючых у Святую Тройцу. Сейм, скліканы ў Пінчаве 1564 г. ухваліў выгнанне з Польшчы ўсіх чужаземцаў- арыян, але закон гэты астаўся на паперы...». З Венграва арыяне былі выдвараны Альжбетай і Кшыштафам Радзівіламі, якія заснавалі там кальвінскі збор. А пазней пратэстанцкія плыні прытухлі ў Рэчы Паспалітай пасля шведскага «патопу», калі шматлікія пратэстанты далучыліся да наезнікаў.

У Венграве пратэстанты ўтрымаліся, хаця іншыя. Менавіта ў XVII стагоддзі ў горадзе пасялілася крыху шатландцаў, пазней, у XIX стагоддзі сталі там пасяляцца немцы. Ну і ў 1841 годзе быў пабудаваны евангеліцка-аўгсбургскі касцёл. Існуюць і пратэстанцкія могілкі з капліцай...

Пра каталіцтва згадаю толькі мімаходам, яно ж і так там галоўнае, прысутнае з самога пачатку горада. Успенскі касцёл, што пры гарадскім рынку, быў намолены так спачатку каталіцтвам, як і пазней пратэстанцкімі плынямі. Цяперашні касцёл быў узведзены ў пачатку XVIII стагоддзя, на месцы згарэлага ранейшага драўлянага. У тыя самыя гады быў узведзены і касцёл св. Пятра з Алькантары і св. Антонія Падуанскага, у падвалах якога і зладжана выстава пра шматкультурнасць горада на рацэ Лівец. Гэта не адзіныя, але галоўныя касцёлы Венграва.


Пратэстанцкі касцёл

На выставе, ладжанай Згуртаваннем Кляштар Венграў — Цэнтрам дыялогу культур, ёсць і частка, адведзеная праваслаўю. Менавіта касцёл Пятра і Антонія ў царскі час быў заняты царскімі ўладамі, якія ў частцы будынка зладзілі праваслаўную царкву. І столькі згадкі пра праваслаўе ў горадзе. А выстаўка, прысвечаная праваслаўю, займае куточак, у якім некалькі ікон, аблачэнне і далікатны спеў псалмоў.

Аднак я знюхаў іншы след праваслаўя ў Венграве, пра які голасна не згадваецца. Менавіта ў частцы выстаўкі, прысвечанай пачаткам горада, ёсць яго сярэдневяковая карта. На карце пазначаны Рынак рускага горада. У тую эпоху ў памежных падляшскіх гарадах былі рынкі пражываючых там супольнасцей з іх храмамі. Гарады былі быццам двайныя: Дарагічын-Рускі і Дарагічын-Ляцкі, Косаў-Ляцкі і Косаў-Рускі, Яблонна-Ляцкая і Яблонна-Руская (у міжчасе перайменаваная ў Старую...). І, відаць, жылі ў сярэднявякоўі і ў Венграве жыхары «рускай» веры. Мабыць няшмат іх было, нядоўга пратрывалі, матэрыяльныя ці летапісныя сляды па іх не асталіся, але захавалася крыху тапанімії...

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

ISSN 0546-1960 36